

*Людзьмі звацца! —*
*Янка Купала*

# Літаратура і Мастацтва

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 г.

ШТОТЫДНЁВІК МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**Пятніца, 10 жніўня 1990 г. № 32 (3546) ● Цана 10 кап.**

## ЗАМЕСТ ТАГО, КАБ ВІТАЦЬ...

**Адкрыты ліст да Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР**

Паважаныя народныя дэпутаты!

З вопыту ўласнага жыцця, з публікацый друку, з прамоў на першай сесіі Вярхоўнага Савета Вы маеце ўяўленне пра занядбаны стан беларускай культуры, нізкі ўзровень гістарычнай і нацыянальнай свядомасці народа, пра недаравальную абыякавасць, а часцяком і ваяўнічую варожасць улад у адносінах да спадчыны, напрацаванай папярэднімі пакаленнямі. Тое, што другія народы зберагаюць як найкаштоўнейшы скарб, у нас лічылася, ды і лічыцца смеццем. Паважаны Прэзідыум, у якой яшчэ краіне было б магчыма аддаваць архітэктурныя і гістарычныя помнікі пад кароўнік, як гэта беспакарана зроблена ў нас у Гальшанах, ужо ў перабудовачныя часы? Дзе яшчэ ўзарвана ці спалена столькі старых будынкаў, столькі цэркваў і касцёлаў, узарана курганоў, высушана рэчак, скалечана мястэчак, зменена гістарычных назваў? Немагчыма прыгадаць другую еўрапейскую краіну, дзе б гэтак планамерна вынішчалася гістарычная памяць народа.

Каб не ўзнікала ніякіх перашкод у гэтай варварскай працы, адміністрацыйна-камандная сістэма трымала пад прыгнётам і беларускае краязнаўства — галіну культуры, што выступае захавальнікам гістарычнай памяці, аберагае ўсе адзнакі нацыянальнага ладу жыцця, увесь назапашаны за тысячагоддзі масіў асаблівасцей народа. Сёння стан нашага краязнаўства нельга параўнаць нават з трагічным станам беларускай мовы. Яно на мяжы скону.

З гэтае прычыны — з нежадання сканаць — у снежні мінулага года адбылася канферэнцыя краязнаўцаў, гісторыкаў, рэстаўратараў, музейных работнікаў, дзеячаў культуры, якая з падставы шырокага прадстаўніцтва ўсіх рэгіёнаў рэспублікі і ўсіх зацікаўленых лёсам культуры арганізацый атрымала паўнамоцтвы з'езда і адрадзіла Беларускае краязнаўчае таварыства (БКТ), што існавала ў 20-х гадах, да пачатку сталінскага тэрору. З'езд прыняў Праграму, Статут і абраў Раду БКТ.

Неўзабаве ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР былі пададзены неабходныя паперы для рэгістрацыі Таварыства. Але ў адказе, падпісаным былым намеснікам Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета У. Мікулічам, катэгарычна адмаўлялася нават самая ідэя стварэння БКТ. Краязнаўцам дазвалялася існаваць адзіна ў якасці секцыі пры Беларускім фондзе культуры. Маўляў, і за гэта будзьце ўдзячныя.

У маі бягучага года сабраўся Вярхоўны Савет БССР новага склікання, былі абраны Старшыня і яго намеснікі, утвораны новы Прэзідыум. Але ў адносінах да БКТ усё засталося па-ранейшаму. На паўторную заяву аб рэгістрацыі БКТ зноў адказана адмовай, падпісанай намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета В. Шаладонавым. Зноўку са спасылкамі на дробныя хітрыкі закона 1932 г. нам даводзяць, па якой каляіне трэба ісці да лепшае будучыні. Без увагі засталіся і тлумачэнні ад імя Фонду культуры, а таксама абгрунтаваны зварот да першага намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета С. Шушкевіча.

(Працяг на стар. 2).



Помнік на Грунвальдскім полі 15 ліпеня 1990 года, 580-я ўгодкі вялікай бітвы. Артыкул А. СІДАРЭВІЧА «Роздум пасля Грунвальда...» чытайце на стар. 5, 12 гэтага нумара. Фота У. ШУБЫ.



## ВЕДАЦЬ, ШТО БАЛІЦЬ ЛЮДЗЯМ

**Госць «ЛіМа» — Аляксандр Надсан**

Імя апостальскага візітатара для беларусаў замежжа айца Аляксандра (А. Надсана) ужо вядома нашым чытачам. Сёлета ў сакавіку А. Надсан у ходзе сваёй паездкі на Беларусь бясплатна перадаў гематалагічнаму цэнтру ў Мінску партыю аднаразовых шпрыцаў, вітамінаў, іншых прэпаратаў. Пра гэтую дабрачынную акцыю паведамлялі «ЛіМ», іншыя газеты.

На мінулым тыдні айцец Аляксандр зноў прыехаў на Беларусь. І зноў — з найкаштоўным грузам для дзяцей Чарнобыля. Разам з напарнікам ён даставіў на мікрааўтобусе праз усю Еўропу лекі, абсталяванне і медыкаменты на 30 тысяч фунтаў стэрлінгаў. Такую суму ахвяравалі прыхаджане цэркваў у Англіі, да якіх звярнуўся з заклікам аб міласэрнасці і дапамозе А. Надсан.

Частку груза англійскі святар таксама перадаў Мінскаму гематалагічнаму цэнтру, дзе лечацца дзеці, пацярпеўшыя ад радыяцыі, а частку даставіў у Гомель.

Пра свае ўражанні ад наведвання Гомельшчыны, у прыватнасці — Хойніцкага раёна, А. Надсан падзяліўся ў рэдакцыі «Літаратуры і мастацтва». Разам з ім у «ЛіМ» прыйшлі пісьменнікі А. Мальдзіс, Б. Сачанка, А. Сідарэвіч.

— Наведанні шпіталяў, радзільных дамоў, дзіцячых установ у пацярпелых раёнах панінулі цяжкае ўражанне,— расказваў айцец Аляксандр. — Не хапае так неабходнага дыягнастычнага абсталявання, не хапае і высокакваліфікаванага медперсаналу. Многія з'ехалі, не вытрымаўшы цяжкасцей. Але тыя, што засталіся, у большасці сваёй — самаадданыя, глыбока сумленныя людзі, — падкрэсліваў наш госць.

(Працяг на стар. 2).

# УЗНОС «КРУПІЦКІХ МУЗЫКАЎ»

Фальклорна-этнаграфічны калектыў «Крупіцкія музыкі» вярнуўся з паездкі ў ФРГ, дзе прымаў удзел у Еўрапейскім маладзёжным тыдні разам з калектывамі з Італіі, Чэхаславакіі, ГДР, ФРГ. Гаспадары ўрачыстасці і замежныя госці былі здзіўлены багаццем народных традыцый, прадстаўленых самадзейнымі артыстамі з Беларусі, высокім майстэрствам выканання імі народных танцаў.

Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР У. Гром паведаміў, што творчая паездка «Крупіцкіх музыкаў» была звязана з дабрачыннай акцыяй: на сродкі, вcase ыручаныя ад канцэртаў, закуплена сем тысяч аднаразовых шпрыцоў для дзіцячай бальніцы ў вёсцы Пяцяўшчына.

**І. ХАШКО.**

# «НАША СЛОВА»—ПРАЦЯГ ЗНАЁМСТВА

Разнастайныя матэрыялы змешчаны ў ліпеньскім выпуску бюлетэня Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. 90-годдзе з дня нараджэння У. Дубоўкі адзначана артыкулам В. Віткі «Верны матчынаму слову». У сувязі з 80-годдзем з дня нараджэння Л. Геніюш А. Траяноўскі выступае з успамінамі «Цвілі «юргіні» каля хаты».

Пад рубрыкай «Трыбуна дэпутата» публікуюцца выступленні на сесіі Вярхоўнага Савета БССР Н. Гілевіча «Клопат дзяржаўны і ўсенародны» і А. Трусава «Як перамагчы імперскі сіндром».

Старшыня аргкамітэта «Бацькаўшчына» Я. Лецка расказвае пра намаганні па стварэнні міжнароднага згуртавання беларусаў.

У нумары — паэтычная нізка «Зямлі бацькоў — не аняме́цы!», падборка чытацкіх лістоў, паведамленне В. Трыгубовіч пра выступленне танцавальнага ансамбля «Васілёк» з Амерыкі, інтэрв'ю Р. Гамзовіч з кіраўніком Беларускага амерыканскага згуртавання В. Бартуль і іншыя матэрыялы.

# ТЭАТР З ДАНЕЦКА

Гастрольнае лета працягвае дарыць сустрэчы з тэатральнымі калектывамі саюзных рэспублік. Працягвае гастролі ў Беларусі і Данецкі абласны музычна-драматычны тэатр імя Арцёма. З майстэрствам яго пазнаёміліся ўжо гледачы Бабруйска, а цяпер артысты з Данецка выступаюць на мінскай сцэне.

У гастрольнай афішы спектаклі, разлічаныя, як кажуць, на розныя мастацкія густы — «Дача Сталіна» У. Губарава, «Інтэрдзяўчынка» У. Куніна, «Зойчына кватэра» М. Булгакава, «Блэзе, або Інтрыгі закаханых» сучаснага французскага драматурга К. Манье...

Пасля Мінска тэатр працягне выступленні ў Віцебску. Дарэчы, гэта яго трэці прыезд у рэспубліку. Папярэднія гастролі адбыліся ў 1937 і 1960 гадах.

*Дэпутацкі клуб «ЛіМа»*

# ЯКАЯ ПАЗІЦЫЯ Ў АПАЗІЦЫІ



**Народны дэпутат БССР, лідэр Беларускага народнага фронту «Адраджэнне» Зянон ПАЗНЯК адказвае на пытанні нашага парламенцкага карэспандэнта**

**— На мінулым тыдні завяршылася праца першай сесіі Вярхоўнага Савета БССР XII склікання. Пракаменціруйце, калі ласка, вынікі двух з палавінай месяцаў парламенцкай дзейнасці — з пункту гледжання іх адпаведнасці ці неадпаведнасці дэмакратычным, адраджэнцкім працэсам у грамадска-палітычным жыцці рэспублікі. Наколькі ўдалося ажыццявіць тыя ідэі, з якімі БНФ выступаў на выбарах-90!**

— Лічу вынікі сесіі больш чым сціплымі. Дзве трэці рабочага часу змарнавана яе арганізатарамі, а прынятыя рашэнні шмат у чым не адпавядаюць інтарэсам людзей.

Па-першае, не падрыхтавана, не прынята ніводнага заканадаўчага акту, які б спрыяў пераходу на рынычную эканоміку і ўмацоўваў бы суверэнітэт Беларусі. Калі мець на ўвазе гэты заканадаўчы вакуум, то напышлівыя размовы аб новай эканамічнай мадэлі і ажыццяўленні суверэнітэту гучаць дэмагогіяй. Між тым жыццё за межамі Беларусі не спынілася, імкліва рухаецца да незалежнасці і дэмакратыі, пакідаючы нас далёка ззаду, у атмасферы палітычнай адсталасці, стагнацыі і рэліктавага бальшавізму. І ўжо не мы, а знешнія сілы адпаведным чынам будуць вызначаць наша становішча. Такая расплата за застой і палітычны параліч. Некалі камуністы, аматары да ўсялякага роду «ізмаў», прыдумалі слоўца — «хвасцізм». Яно вельмі дарэчы, калі характарызаваць грамадска-палітычную сітуацыю ў рэспубліцы.

Прымаючы пад увагу адсутнасць элементарнай заканадаўчай базы пад рыначную сістэму і суверэнітэт, а таксама састарэласць адміністрацыйна-камандных структур улады, у прынцыпе не было патрэбы ствараць новы кабінет міністраў паводле старой кадрава-структурнай схемы. Бессэнсоўна, лічу, было фарміраваць урад, які заведама нічога не вырашыць і збанкрутуе. Гэта марнаванне часу. Можна было прадоўжыць паўнамоцтвы старога кабінета на перыяд заканадаўчых рэформ, аднак на гэта не пайшлі. Дэпутаты ад БНФ не галасавалі пад час зацяжнога пустапарожняга міністэрскага шоу і не нясуць адказнасці за дзеянні новай адміністрацыі.

Па-другое, не прыняты неабходныя дакументы, якія б спрыялі дзяржаўнай, грамадскай дзейнасці дэпутата, пацвярджалі яго правы і магчымасці. Гэта закон аб статусе народнага дэпутата, пастаянны рэгламент і іншыя палажэнні, напрыклад, аб Сакратарыяце Вярхоўнага Савета БССР... Сесія скончылася, а дэпутаты не маюць закона, на падставе якога яны павінны ажыццяўляць свае паўнамоцтвы. Яны нават не маюць дэпутацкіх пасведчанняў, акрамя часовых картак. Аказваецца, пасведчанні «суверэнным» беларускім дэпутатам павінна зрабіць і выдаць Масква...

Затое партыйная большасць Вярхоўнага Савета на закрытым пасяджэнні, пры адключанай радыё- і тэлетрансляцыі працягнула палажэнне аб тым, што «народнаму дэпутату БССР, вызваленаму ад выканання службовых ці вытворчых абавязкаў у сувязі з працай у Вярхоўным Савеце БССР, калі ён не мае пастаяннага месца жыхарства ў Мінску, даецца жылая плошча на ўсю сям'ю ў Мінску». Гэтая ў поўным сэнсе слова непрыстойнасць вельмі абурае шмат якіх дэмакратычных дэпутатаў. Бо так нідзе не робіцца. Дэпутат, які пераходзіць на пастаянную працу ў Вярхоўны Савет, павінен атрымліваць у Мінску не пастаянную, а часовую службовую жылплошчу. Пры гэтым кватэра па месцы жыхарства бранíруецца за ім на перыяд ажыццяўлення дэпутацкіх паўнамоцтваў. Аднак партыйная наменклатура не была б партыйнай наменклатурай, калі б, трапіўшы ў масавай колькасці ў Вярхоўны Савет і захапіўшы ўладу, не выкарыстала б яе і тут дзеля сваіх асабістых інтарэсаў.

І, нарэшце, трэцяе. Як след не вырашана пытанне пра выратаванне насельніцтва ад чарнобыльскай катастрофы. Тут у наменклатуры, на якой у значнай ступені ляжыць адказнасць за паслячарнобыльскія падзеі, таксама было шмат асабістых інтарэсаў. Адсюль — працягласць і заблытанасць дыскусій, адсюль — недастатковыя і нездавальняючыя рашэнні па Чарнобылю.

# ЗАМЕСТ ТАГО, КАБ ВІТАЦЬ...

(Пачатак на стар. 1).

Адмоўнае стаўленне да адроджанага Беларускага краязнаўчага таварыства нельга расцэньваць інакш, чым свядомы здзек. На нашую думку, Прэзідыум павінен выправіць злачынства ў адносінах да БКТ, скасаванага ў часы сталінскага генацыду супраць беларускага народа і беларускай культуры. Нагадаем, што яго дзеячы сталі ахвярамі Курапатаў і канцлагераў.

Адмова ў рэгістрацыі БКТ — гэта абраза нашых патрыятычных пачуццяў і гвалт над нашымі грамадзянскімі правамі. Над рэспублікай вісіць чарнобыльская хмара, сродкаў на рэанімацыю культуры, гістарычнай спадчыны, па сутнасці, няма. І пры такіх жорсткіх умовах Прэзідыум Вярхоўнага Савета замест таго, каб вітаць нашую культурную ініцыятыву, душыць яе з дапамогай сталінскіх законаў.

Пагадзіцца з гэтым немагчыма.

Мы патрабуем спыніць ганебныя адносіны да БКТ і неадкладна зарэгістраваць Таварыства.

**Сябры Рады Беларускага краязнаўчага таварыства: Канстанцін ТАРАСАЎ, пісьменнік; Таццяна ГАРАНСКАЯ, член Саюза мастакоў Беларусі; Алесь КІШЧЭВІЧ, эксперт БФК; Анатоль ЦІТОЎ, старшы выкладчык Мінскага інстытута культуры; Міхась ЧАРНЯЎСКІ, загадчык аддзела археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР; Вольга ІПАТАВА, пісьменніца; Віталь СКАЛАБАН, супрацоўнік выдавецтва БСЭ; Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ, доктар гістарычных навук, прафесар; Данута БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА, пісьменніца; Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ, дацэнт Ленінградскага інстытута культуры, правадзейны член геаграфічнага Таварыства СССР; Сымон СВІСТУНОВІЧ, член Саюза мастакоў Беларусі; Сяржук ВІТУШКА, малодшы навуковы супрацоўнік музея М. Багдановіча.**

**ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ**

# ЛЮДЗІ, КАЛІ Ж МЫ СТАНЕМ ЛЮДЗЬМІ?

Страшнае слова КУРАПАТЫ стала сімвалам народных пакутаў, беззаконня, масавых злачынстваў, вынішчэння лепшых сыноў і дачок нашай зямлі, сведчаннем сталінскага генацыду.

Грукочуць аўтобусы і самазвалы, імчацца легкавушкі па асфальце Мінскай кальцавой дарогі, а пад ёю — косці і чарапы з прастрэленымі патыліцамі.

Шумяць учарнелыя сосны над праваламі брацкіх магіл, а ў іх — астанкі беларусаў, рускіх, украінцаў, яўрэяў, палякаў, літоўцаў і латышоў, камуністаў і святароў усіх веравызнанняў, мужчын і жанчын, старых і падлеткаў.

Увесну гэтыя клады жахлівых пакут, ці не Боскаю воляю, укрываюць белыя пралескі, памясцоваму — курапаты і чырвоныя грыбы.

Гэты невялікі лес паміж полем і кальцавою дарогаю стаў месцам паломніцтва нашчадкаў закатаваных пакутнікаў і цудам ацалелых іх колішніх аднакамернікаў і састарэлых сяброў. Яны прыносяць кветкі, рушнікі з чырвонымі і чорнымі ўзорамі, запальваюць свечкі ля крыжа.

У нядзелю, 5-га жніўня, я абышоў увесь масіў ад аўсянішча да дарогі. У нізіне дыміліся вогнішчы, па-пляжнаму расцяленшаныя людзі пілі, закусвалі, нешта смажылі, каля іх весяліліся дзеці. Я наіўна пацікавіўся, ці не памінкі спраўляюць яны. «Зачэм? Проста аддыхаем...»??? «Ну і што? Слышалі. Што-та была кагдата. Вы, старыкі, помніце, а для нас—лес і лес». Вось так! Па сцежках выгульваюць сабак, стаіць рокавы вэрхал. Людзі, калі ж мы станем людзьмі?

Ці не пара на дзяржаўным узроўні абвясціць вусцішны курапацкі лес святым нацыянальным запаведнікам, месцам пакаяння вінаватых і пакланення сумленных, маршрутам маўклівых экскурсій?

На адкрытым узгорку — вялізны валун. На ім адліты з металу надпіс: «У гэтым лясным масіве ў адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў Беларускай ССР ад 18 студзеня 1989 г. (шкада, што не паставілі нумар) будзе пабудаваны помнік ахвярам масавых рэпрэсій 1937—1941 гадоў».

Чыіх рэпрэсій? Каго каралі, вінаватых ці невінаватых, пастанова сарамліва ўмоўчвае. Сцюжаю цягне ад жалезабетоннага стылю чыноўніцкай інфармацыі. Прасцей было б напісаць: «Тут будзе помнік ахвярам сталінскага генацыду. Савет Міністраў БССР».

# ВЕДАЦЬ, ШТО БАЛІЦЬ ЛЮДЗЯМ

(Пачатак на стар. 1).

Вельмі высока азваўся ён аб намесніцы старшыні камітэта «Дзеці Чарнобыля» Н. Баркоўскай, якая суправаджала святара ў яго паездцы.

Кантакты з людзьмі, якія жывуць зараз у заражаных раёнах, неабходны, гаварыў А. Надсан. Трэба ведаць, што найбольш баліць гэтым людзям, што найперш іх хвалюе. На яго думку, менавіта гэтага не хапае замежным экспертам па праблемах радыяцыі, якія працуюць на Беларусі, часцей за ўсё не ведаючы ні мовы, ні мясцовых умоў.

Удзельнікі гутаркі ў рэдакцыі прыйшлі да высновы, што адным з самых небяспечных вынікаў Чарнобыльскай трагедыі стала разбурэнне сувязей людзей з роднай прыродай, этнакультурнага соцыуму. У сувязі з гэтым гаворка, натуральна, зайшла і аб праблемах адраджэння беларускай нацыі — яе мовы, культуры, традыцый, маральных каштоўнасцей, а таксама і аб ролі, якую можа і павінна адыграць тут беларуская эміграцыя.

**НАШ КАР.**

Што датычыць ажыццяўлення ідэй БНФ. Яны звычайна адхіляліся партыйнай дэпутацкай большасцю, але асобнымі сваімі палажэннямі ў той ці іншай форме раскіданы па многіх прынятых дакументах. Напрыклад, была адхілена Дэкларацыя аб незалежнасці Беларусі, прапанаваная Народным фронтам. У той жа час прыняты дакумент аб дзяржаўным суверэнітэце, дзякуючы працы нашых дэпутатаў, на 95 працэнтаў заснаваны на ідэях БНФ, выкладзеных яшчэ паўтара года назад.

**— Чым зараз вызначаецца расстаноўка сіл у Вярхоўным Савеце? Наколькі адэкватна, на ваш погляд, цяперашні дэпутацкі корпус выяўляе волю народа? Што спрые і, наадварот, што замінае выпрацоўцы і прыняццю адказных рашэнняў?**

— У Вярхоўным Савеце БССР каля 86 працэнтаў камуністаў, прычым большасць з іх — апаратная і адміністрацыйна-гаспадарчая наменклатура. Волю народа гэтая большасць, вядома ж, не выяўляе. Яна баіцца гэтага народа. Такая сітуацыя ўтварылася таму, што ў нас няма дэмакратычнага закона аб выбарах. Адпаведна, не было і дэмакратычных выбараў. Я ўжо не кажу пра махінацыі і фальсіфікацыі з боку выбарчых камісій.

Дэмакратычныя дэпутаты па ініцыятыве групы БНФ аб'ядналіся ў Дэпутацкі клуб, які мае свой статут, прыняты 100 дэпутатамі. Гэта даволі свабоднае і шырокае аб'яднанне, вельмі неабходнае ў варунках кансерватыўнага засілля.

Дэпутацкая група (фракцыя) БНФ з 27 чалавек утворана яшчэ перад сесіяй, але заявіла пра сваё стварэнне і рэгістрацыю толькі праз два месяцы, калі больш-менш выспелі ўмовы. Да гэтага часу ўжо існавалі групы аграрнікаў і ветэранаў («Саюз»). Нядаўна абвясцілі пра сваю групу (160 членаў) і камуністы. Вылучаецца таксама група «прамыславікоў» (кіраўнікоў прадпрыемстваў і інш.).

Найбольш радыкальныя аб'яднанні — гэта БНФ і Дэмакратычны клуб (парламенцкая фракцыя БНФ уваходзіць у Дэмклуб). Пэўным лібералізмам па асобных пытаннях, але і вузкім прафесіяналізмам характарызуецца група «прамыславікоў». Партгрупа выяўляе ў асноўным інтарэсы кіруючага апарату. Найбольш палітычна рэакцыйная катэгорыя дэпутатаў — аграрнікі, пераважна кіраўнікі гаспадарак і сельгасведамстваў. Зрэшты, і сярод аграрнай групы ёсць дэмакратычна настроеныя людзі, але яны не робяць «надвор'я».

Самае сумнае, што ўсе наменклатурныя групы аб'ядноўвае стойкае непрыняцце беларускай мовы і культуры. На прыкладзе гэтых дэпутатаў добра відаць вынікі той антыкультурнай палітыкі на Беларусі, калі нацыянальны нігілізм становіцца масавай псіхалогіяй.

Да кансерватыўнай большасці Вярхоўнага Савета трэба таксама далучыць дэлегатаў ад ветэранскай арганізацыі (29 пенсіянераў). У асноўным гэта былое вышэйшае афіцэрства і высокапастаўленая некалі наменклатура, чыя дзейнасць і заслугі раскрыліся ў часы Сталіна і Брэжнева. У Вярхоўны Савет яны прыйшлі з кіруючых структур сваёй арганізацыі, мінаючы народныя выбары ў акругах. Гэтыя дэпутаты даволі актыўныя, выступаюць па ўсіх пытаннях з пазіцый пазаўчарашняга дня і галасуюць часта на ўзроўні дагматычных інстынктаў (як, напрыклад, за захаванне шостага артыкула Канстытуцыі).

У цэлым, калі суаднесці цяперашні склад Вярхоўнага Савета, яго пераважна кансерватыўную палітычную арыентаванасць, прафесійную і культурную павярхоўнасць — з тэрміновымі задачамі беларускага грамадства, то я не бачу для гэтага Савета ніякай перспектывы. Ён проста недзеяздольны па сённяшніх мерках, у яго трапілі не тыя людзі. Мяркую, як толькі палепшыцца становішча і з'явяцца магчымасці для свабодных дэмакратычных выбараў, адразу паўстане пытанне аб роспуску нашага цяперашняга Вярхоўнага Савета.

**— Шмат увагі на сесіі было ўдзелена чарнобыльскай праблеме, слуханні па гэтым пытанні былі найбольш працяглымі. Беларусь абвешчана зонай нацыянальнага экалагічнага бедства. Ці можна спадзявацца, што ў бліжэйшы час сітуацыя карэнным чынам зменіцца, а прынятыя захады будуць эфектыўныя?**

— На маю думку, не. Бо ва ўладзе на Беларусі па-ранейшаму знаходзяцца людзі, вінаватыя ў паслячарнобыльскай трагедыі. Яны не здольныя ратаваць народ, бо заўсёды былі аб'ектыўна варожыя яму.

Для выратавання нацыі неабходны дзве ўмовы. Першая — дзяржаўны суверэнітэт і незалежнасць Беларусі, каб скарыстаць сваю грамадскую працу, яе вынікі і энергію на вырашэнне ўласнага лёсу і дзеля свайго дабрабыту. Другая ўмова — ліквідацыя камуністычнай дыктатуры, яе адміністрацыйна-каманднай сістэмы.

Важна таксама зразумець, што чарнобыльская трагедыя, якая ўжо пяты год доўжыцца на Беларусі, той абсурд, што адбываецца на нашых землях, той радыяцыйны генацыд, — маюць пад сабой злавесную прычыну і злавесны сэнс. Над нашым народам робіцца атамны медыка-радыелагічны эксперымент, у якім зацікаўлены не толькі ваенна-прамысловы комплекс СССР, але і ЗША, увесь ядзерны свет і, перш за ўсё, такая арганізацыя, як МАГАТЭ. Яна абараняе не чалавека, не людзей, а інтарэсы ядзернай энергетыкі, ядзерных манапалістаў. А манапалістамі ў гэтай галіне з'яўляюцца СССР і ЗША. Перш чым вырашыць што-небудзь у МАГАТЭ, яны дамаўляюцца паміж сабой, а потым ужо праводзяць «фармальнасці»: «выбіраюць», скажам, генеральнага дырэктара МАГАТЭ — сваю крэатуру з нейтральных краін...

Тры гады пасля катастрофы унікальны эксперымент над беларускім народам адбываўся пад строгім сакрэтам. Успомніце, колькі было хлусні, як білі сябе ў грудзі, што няма ніякай радыяцыі, што радыяцыя бясшкодная; успомніце, як нахабна ілгалі на ўвесь свет розныя партыйныя бонзы і іх міністэрскія, медыцынскія паслугачы. Успомніце, як маскоўскі акадэмік Л. Ільін летам 1989 г. прывёз на Беларусь замежных экспертаў МАГАТЭ Бенінсона, Пелерэна, Уайта. Успомніце, што казалі нам у вочы гэтыя «эксперты». А ўспомніце чарнобыльскія мітынгі і шэсці Народнага фронту, а суды над арганізатарамі «Чарнобыльскага шляху», а праследаванні за праўдзівую інфармацыю пра нашае гора, а перашкоды чарнобыльскай праўдзе! Давайце задумаемся, што абаранялася гэтак ярасна і подла, што хавалася ад народа, якая таямніца, дзеля чаго?

На працягу амаль года мы ніяк не маглі праінфарміраваць свабодны свет пра нашу трагедыю. Уся інфармацыя ішла як у вату. Мы ж не ведалі, што выпрабоўвалі сілу міжнароднай атамнай мафіі, якая не зацікаўлена ў тым, каб грамадскасць Захаду ведала пра беларускую трагедыю. Бо калі б даведалася, тады эксперыменту мог бы прыйсці канец. Сёлета нам удалося прабіць «ваконца ў Еўропу». Па кропельках пайшла інфармацыя, у людзей на Захадзе пачалі раскрывацца вочы.

І тут занепакоілася МАГАТЭ. Спешна фармуецца каманда спецыялістаў, спешна дамаўляюцца яны з Саветам Міністраў СССР аб правядзенні «навуковай» экспертызы на забруджаных землях Беларусі. Праграму МАГАТЭ вырашана фінансаваць за кошт сродкаў чарнобыльскага фонду — 1,5 мільёна рублёў. Мы памятаем «круізы», памятаем,—куды пайшло паўмільёна рублёў з дабрачыннага рахунку № 904. Збірайце, людцы, па рубліку...

Удумаемся, што адбываецца. Па-першае, МАГАТЭ вырашыла з помпай правесці «навуковую экспертызу» і супакоіць грамадскасць. Маўляў, небяспека ёсць, але не ў такіх маштабах. Больш, маўляў, непакоіць псіхагенны фактар дэзінфармаванасці, што можа выклікаць рэцыдывы радыефобіі і г. д. Генеральны дырэктар МАГАТЭ спадар Блікс, юрыст па адукацыі, у сваім інтэрв'ю «Правде» і ў іншых выступах ужо даў зразумець, якога роду чакаюцца заключэнні «незалежных экспертаў».

Па-другое, ніякія даследаванні за адведзены «экспертам» час не дадуць іншых і больш дасканалых навуковых вынікаў, чым тыя, якімі ўжо сёння валодаюць вучоныя з АН БССР. Экспертная акцыя МАГАТЭ — прафанацыя. Тым не менш яна праводзіцца ды яшчэ і фінансуецца за наш кошт.

Гэтыя і іншыя думкі я выклаў у рэфераце, зачытаным мной на сімпозіуме «Жыццё пасля Чарнобыля», які адбыўся ў Берліне ў канцы чэрвеня гэтага года. Рэферат быў трансляваны таксама па радыё «Свабода», надрукаваны ў замежным друку. Вынік — пачуў у свой адрас чарговую порцыю, скажам мякка, «незадаволенасці». Нават камсамольская газета «Знамя юности» асцярожна кінула ў мяне свой камяк. Так і хочацца сказаць — людзі, што з вамі робіцца?

А спадар Блікс тым часам выступіў на сесіі Вярхоўнага Савета БССР у сваім завуаляваным стылі і сарваў апладысменты. Якая прадбачлівасць.

Нарэшце ўспомнім, як нам прыдумалі 35-бэрную канцэпцыю, каб прадаўжаць эксперымент. Пад націскам грамадскасці яе пахавалі (амаль пахавалі). Тады прыдумалі льготы тым, хто жыве там, дзе з-за радыяцыі жыць нельга. Далі павышаную аплату. Толькі каб ты там жыў, беларус, толькі каб затрымаць цябе на той смяртэльнай зямлі... І так будзе без канца, пакуль мы не зразумеем усё і не станем змагацца ўсімі цывілізаванымі сродкамі за сваю будучыню.

**— Вярхоўны Савет прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце БССР. Вашы адносіны да гэтага дакумента? Ці можна лічыць, што пасля прыняцця Дэкларацыі ўтварылася якасна новая сітуацыя? Чым яна вызначаецца, і ў якім напрамку будуць разгортвацца падзеі ў бліжэйшы час?**

— Парадокс нашай сітуацыі ў тым, што дэкларацыю аб суверэнітэце вымушаны былі прымаць тыя, каму ён не патрэбны, хто пра гэты суверэнітэт дагэтуль ніколі не думаў...

Дэкларацыя ў цэлым мае шмат станоўчага. І калі б у нас была народная ўлада і адпаведны палітычны ўзровень насельніцтва, прыняцце такога дакумента азначала б надзвычай важную і станоўчую для народа падзею — дзяржаўную самастойнасць і незалежнасць ад СССР. У нашых жа варунках акт незалежнасці Беларусі ў асноўным ніхто не заўважыў і не зразумеў, у тым ліку і самі вярхоўныя заканадаўцы. Сітуацыя трагікамічная, якая сведчыць, што на сённяшні дзень Дэкларацыя — пустая паперка, не больш. Але ад нашага грамадства залежыць, якой яна стане потым. Дэкларацыя прынятая, і гэта факт. Цяпер беларускі народ мае магчымасць змагацца за рэальнае ажыццяўленне суверэнітэту рэспублікі.

**— Нягледзячы на настойлівыя прапановы і нават патрабаванні, Вярхоўны Савет так і не зарэгістраваў Беларускі народны фронт. Чым вы гэта тлумачыце?**

— Паталагічным страхам КПСС згубіць уладу. Пытанне аб рэгістрацыі БНФ, узнятае на сесіі 28 ліпеня, канчаткова не было вырашана. Памятаеце, аб'явілі перапынак, пасля якога многія дэпутаты-камуністы разбегліся і не стала кворуму. Закрыццё сесіі перанеслі на 31 ліпеня, а перад гэтым засядала бюро ЦК КПБ — рашалі, як закрыць сесію, каб не зарэгістраваць БНФ.

31 ліпеня на Прэзідыуме Вярхоўнага Савета я паставіў пытанне аб разглядзе маёй заявы пра рэгістрацыю БНФ, пададзенай яшчэ 10 ліпеня. У адказ Старшыня Вярхоўнага Савета і некаторыя члены Прэзідыума паказалі мне свае спіны.

Я ўжо казаў, што ў палітычным сэнсе рэгістрацыя БНФ нам цяпер не надта і патрэбна. Аднак яна неабходна для нармальнай жыццядзейнасці некаторых нашых структур, напрыклад, камітэту БНФ «Дзеці Чарнобыля».

**— На заключным этапе сесіі парламенцкая фракцыя БНФ сцвердзіла сябе як апазіцыя. Што паўплывала на прыняцце такога рашэння? Якія мэты ставіць перад сабой апазіцыя, якімі сродкамі яна будзе дамагацца вырашэння сваіх задач? Наколькі перспектыўнай бачыцца дзейнасць у новых умовах?**

— Апазіцыя неабходная, бо нельга несці палітычную адказнасць за тыя недэмакратычныя, часам проста непрафесійныя рашэнні, якія прымае камуністычна-наменклатурная большасць у Вярхоўным Савеце. Аднак патрэбен быў час, каб многія дэмакратычныя дэпутаты, што выйшлі ў апазіцыю, усвядомілі неабходнасць гэтага кроку. А пераканаліся яны тады, калі ўбачылі «столь» у дэмакратычным развіцці Вярхоўнага Савета. Перспектывы яго дэмакратызацыі хоць і не да канца, але ў асноўным вычарпаныя.

Наша апазіцыя мае канструктыўны характар. Гэта значыць, што яна будзе не толькі крытыкаваць палітычны кірунак і працу Вярхоўнага Савета, але і ствараць альтэрнатыўныя законапраекты, свае структуры, друк і г. д,

Перспектыва будзе залежаць, ад нас і ад дэмакратычных перамен у грамадстве, ад поспеху дэмакратычнага руху, ад рэалізацыі нашых мэт, галоўная з якіх на сённяшні дзень — Свабода і Незалежнасць Беларусі.

Гутарку вёў **Андрэй ГАНЧАРОЎ.**

---

**Здзіўляе, што да гэтага часу, калі злачынствы афіцыйна названы злачынствамі, рэспубліканскія ўлады сарамліва змякчаюць фармуліроўкі, масавае вынішчэнне лепшых людзей называюць бязадраснымі рэпрэсіямі.**

**Ва ўсіх краінах Усходняй і Заходняй Еўропы (і ў ФРГ) існуюць узаконеныя таварыствы і клубы былых вязняў фашысцкіх лагераў. А ў нас каторы год па невядомых прычынах, спасылаючыся на нейкія фармальныя зачэпкі, наш шаноўны ўрад упарта не хоча зарэгістраваць «Мартыралог Беларусі», ігнаруе гэтую дабрачынную арганізацыю, нібыта нейкую сумніцельна-шкодную суполку. А як бы яна магла дапамагаць нямногім яшчэ жывым, абыдзеным дзяржаўнаю ўвагаю, недабіткам сталінскага тэрору! Яны па 10—15 і 20 гадоў здабывалі золата і вугаль, руду і мінералы ў Нарыльскай і Калымскай вечнай мерзлаце, валілі тайгу на артылерыйскі лафетнік, авіяцыйную фанеру і рудстойку, часалі ружэйную балванку для аўтаматаў. У сцюжу і ў дождж гарбелі па 12 гадзін за міску турнэпсавай баланды і паечку хлеба з вотруб'я.**

**Дзякаваць, што пасля XX з'езда большасць рэабілітавалі пасмяротна, а жывым выплацілі кампенсацыю ў памеры трохмесячнай зарплаты па даваенных стаўках. Вось і ўсё. Так лёгка разлічыліся за дзесяцігоддзі незаслужаных пакут. Ніхто не пакаяўся, ніхто не папрасіў прабачэння. Па лагерных «заробках» вызначалася пенсія. Да апошняга часу ўдава расстралянага ў Курапатах паэта Юркі Лявоннага, сама адбыўшы дзесяць гадоў у лагеры, атрымлівала 50 рублёў пенсіі і больш — ніякіх прывілеяў.**

**А тыя, што катавалі на допытах, судзілі, стралялі ў патыліцы, у часе Айчыннай вайны ўдасканальвалі сваё рамяство ў заградатрадах, у трыбуналах, у «смершах» і асобых аддзелах, былі перлюстратарамі баявых салдацкіх трыкутнікаў і за слова праўды (як Салжаніцына) здавалі аўтараў у трыбунал? Усе яны як удзельнікі Айчыннай вайны («участники ВОВ») карыстаюцца льготамі і прывілеямі, хоць і мізэрнымі палёгкамі ў чарзе нараўне з пакалечанымі акопнікамі. Былых гітлераўскіх катаў улады ФРГ і цяпер адшукваюць і караюць, на іх не распаўсюджваецца тэрмін даўнасці. А каго знайшлі, каго пакаралі з нашых прывілеяваных катаў? Усе яны персанальныя пенсіянеры і спажыўцы спецпайкоў. А рэабілітаваныя не маюць права на харчовыя талоны нароўні з працаўнікамі тылу. Яны на ўсё жыццё выпалі адусюль, засталіся сумніцельнымі істотамі без аблічча і біяграфіі, баяцца прызнацца, дзе былі ў часе вайны, застаюцца людзьмі апошняга гатунку.**

**А колькі іх засталося? Кожны дзень адыходзяць у вечнасць скалечаныя пакутнікі. «Мартыралог» мог бы ім дапамагчы на апошнім рубяжы, але і ён пакуль што «вне закона». Рана ці позна яго ўзаконяць, але не будзе ўжо каму памагаць.**

**...Я хаджу па Курапатах. Ці не ад куль не самых трапных «варашылаўскіх стралкоў» па кары слязіцца смала. Але не дзеля эмоцый, не дзеля ўласных інтарэсаў (я ўсім задаволены і забяспечаны) я ўзяўся за пяро. Дачуўся, што абвешчаны конкурс на праект помніка «ахвярам масавых рэпрэсій». Што ўзнімецца на месцы таго валуна? Чарговы скульптурна-архітэктурны гібрыд, лепшы або горшы, але аднолькава немы і бяздзейсны? Колькі іх на нашай зямлі, як казаў дзед Талаш — «балваноў»?!**

**Я звяртаюся да ўсяе грамадскасці рэспублікі, да ўсіх рэлігійных абшчын і арганізацый, незалежна ад веравызнання, да ўсіх сумленных людзей з заклікам распачаць збор ахвяраванняў, каб на тым узгорку паставіць велічную калі не царкву, дык капліцу з цэглы, а можа, лепей з тых соснаў, што ўзняліся з касцей маіх равеснікаў і аднапакутнікаў, каб на алтары гарэлі свечкі, спявалі хоры духоўнай музыкі, каб званы клікалі атэістаў і веруючых на гэтае святое месца.**

**Хачу верыць, што на гэтую прапанову адгукнуцца мастакі і архітэктары, скульптары і разьбяры, грамадскія і рэлігійныя аб'яднанні, увесь наш народ, бо няма, бадай, ніводнай сям'і, з якой каго-небудзь не праглынуў «чорны воран».**

**Лепшага помніка, вартага памяці закатаваных, я сабе не ўяўляю — помніка жывога, дзейснага, галоснага.**

**Думаю, што многія з рэабілітаваных пажадаюць, каб іх прах быў побач з безыменнымі магіламі сяброў па трагічным лёсе.**

**Веру — добрыя і сумленныя сэрцы адгукнуцца і падтрымаюць маю прапанову, зламаюць супраціўленне маўклівых, але актыўных абаронцаў трагедыі, падобнай якой не ведала чалавецтва.**

**Трэба спяшацца: сведкі тае жахлівае пары імкліва адыходзяць у незваротны шлях, а і яны хочуць запаліць свечку на алтары помніка, да якога ніколі не зарасце народная сцежка.**

**Сяргей ГРАХОЎСКІ,**
**былы вязень ГУЛАГа з 20-гадовым стажам.**

## Кнігапіс




Ю. СВІРКА. Кружка з пясчаным дном. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1990.

**«Бібліятэка беларускай паэзіі» папоўнілася зборнікам лірыкі Юрася Свіркі — паэта, маленства якога супала з Вялікай Айчыннай вайной. Зразумела, што водгулле тых падзей знайшло сваё адлюстраванне ў асобных творах аўтара. Акрамя таго, на старонках кніжкі чытач сустрэне вершы-роздум аб нашым хуткаплынным часе, паэтычныя радкі, прасякнутыя любоўю да Бацькаўшчыны.**




У. КАВАЛЁНАК. Радзіма крылы дала. На рускай мове. Мінск, «Юнацтва», 1989.

**У дакументальнай аповесці, адрасаванай у першую чаргу старшакласнікам, лётчык-касманаўт Уладзімір Кавалёнак падрабязна ўзнаўляе асноўныя моманты свайго шляху, што прывёў яго да зорак. Гаворыцца аб падрыхтоўцы касманаўтаў, тых асноўных задачах, што стаяць перад пакаральнікамі Сусвету.**




А. МАРЦІНОВІЧ. Сказаць сваё слова. На англійскай, нямецкай і французскай мовах. Мінск, «Беларусь», 1990.

**Аўтар падрабязна расказвае пра сённяшні стан маладой беларускай літаратуры. Выданне адрасавана замежным чытачам, таму А. Марціновіч запыняе ўвагу на ўсіх найбольш значных творах паэзіі, прозы, крытыкі, драматургіі, а таксама кнігах для дзяцей. Адначасова расказваецца аб рабоце літаратурных аб'яднанняў рэспублікі.**




А. КАЗАННІКАЎ. А зязюля кувала... Аповесць, апавяданні. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1989.

**У аднайменнай аповесці пісьменнік асэнсоўвае пасляваеннае жыццё вёскі, на прыкладзе простай жанчыны Таццяны Макарэц паказвае, якім цяжкім і складаным было яно. Апавяданні «Жураўліха» і «Чужыя» — таксама спроба аўтара па-свойму ўгледзецца ў вобраз сучасніка, высветліць, наколькі трывалыя ў іх маральныя карані.**

*Чытаючы часопіс*

# ШЛЯХ да азарэння

ЦЯПЕР, калі мы нарэшце займелі права па-новаму глянуць на сваю гісторыю, пераасэнсаваць тыя моманты ў ёй, што часам выклікалі ўнутранае пярэчанне, але пра якія проста не прынята было гаварыць, найпершая і разам з тым ці не самая ўдзячная задача пісьменніка паспрабаваць падысці як мага больш прынцыпова да ўсіх гэтых няпростых працэсаў, сказаць пра іх важкае, праўдзівае слова. Гэта і робіць у новай аповесці «Праклятая любоў», надрукаванай у пятым нумары часопіса «Полымя», Алесь Жук.

Адразу мушу засведчыць, што яна добра стасуецца да папярэдніх твораў пісьменніка, такіх, скажам, як аповесці «Халодная птушка» і «Паляванне на апошняга жураўля». Канечне, у іх аўтар вымушаны быў пра набалелае гаварыць завуалявана, штосьці нават не дагаворваць. Але разам з тым нельга не заўважыць, што менавіта ў гэтых творах А. Жук засяродзіўся на шмат якіх набалелых у грамадстве праблемах.

Тут і непрыкаянасць старых людзей у вёсцы, калі духоўныя карэнні падарваны, а на новым месцы, найперш у горадзе, так цяжка душы даваць маладыя парасткі. І валюнтарызм кіраўніцтва, якое не хоча, не жадае, а па сутнасці і не можа зразумець тых, хто спрадвеку жыў на зямлі. Не можа, бо глядзіць на ўсё са званіцы сваіх адміністрацыйных інтарэсаў, прытрымліваецца голай, я б сказаў, неадушаўлёнай ідэі, забываючы, што і сама ідэя гэтая, і самыя найлепшыя памкненні без чалавека — нішто.

Ды і шмат што іншае, пра што ўжо загаварылі на поўны голас, бачыцца ў згаданых аповесцях, калі іх перачытваюць з пазіцыі сённяшняга дня. Але ўсё гэтае важнае, надзённае, набалелае, што было і ў «Халоднай птушцы», ў «Паляванні на апошняга жураўля», у «Праклятай любові» паўстае ў больш шырокім, аб'ёмным ракурсе. Не, гэта не паўтор пісьменнікам знаёмых сюжэтных хадоў, у нечым падобных жыццёвых лёсаў, а само жыццё, без традыцыйнага падзелу на станоўчае і адмоўнае. Гэта тая праўда жыцця, наколькі яе здатны адчуць і раскрыць аўтар. Нарэшце, гэта мастацкая праўда, якая вызвалілася з-пад дыктату аглядкавасці, забароненасці. І сам боль вёскі, даведзенай да ручкі, але якая ўсё ж жыве, застаецца прыстанішчам духоўнасці, усяго здаровага і моцнага.

Праўда, яно, каб выжыць, павінна прабівацца скрозь падман, хлусню і абыякавасць. Цяжка і галоўнаму герою аповесці калгаснаму механізатару, а цяпер пенсіянеру Яну Кулешу. Хоць нялёгка, нясоладка і раней было, асабліва тады, калі «пабігы, ледзьве душа ў целе, але жывы вярнуўся» з фронту. Ды і пазней, калі на ногі стаў, сям'ёй абзавёўся: «мабыць, доля яго такая — усё быццам між іншым у жыцці, нібы ты і не маеш значэння для таго, што робіш сам. Вось гэтак партызанка забрала маладосць, мімаходзь завёў у свой вір фронт, а потым круціла, як тую салому ў малатарні, усё жыццё калгасная работа. Аднаўляліся, узбуйняліся, дзяцей у людзі выпіхвалі, чаго толькі не рабілі, нават камунізм будавалі, — а ўсё для нечага іншага, лепшага, толькі не для самога сябе».

Аднак, калі быў маладзейшым, з-за турботных будняў да многага не даходзіў, не задумваўся. Трэба было араць, сеяць, касіць, жаць. Не да высокіх матэрый... Тым больш балючае празрэнне на жыццёвым перавале, калі нешта і падрахункаваць варта: «...што толку з таго, што пайшоў на трактарыста, што зарабляў увесь век? Аказваецца, шчасце не заробіш. Шчасце, быццам ад бога: альбо ўдаецца, альбо не. Гэта як каму пашанцуе».

Не надта новыя высновы. Як і тое, што шмат ёсць на вёсцы працавітых мужчын, падобных Яну Кулешу, але многае ў іх не ладзіцца, бо поруч жонкі, рыхтык Янава Мар'я — усё не так, усё нечага не хапае, ва ўсім муж вінаваты. Але разам з тым у жыцці Кулеша многае куды больш складаней. Сапраўды ўжо: уласны лёс — адбітак лёсу краіны. Ды не ў тым лепшым, што было, а ўва ўсім негатыўным. Яно ж і вяло даператварэння чалавека толькі ў звычайнага работніка, выканаўцу, пазбаўляла гаспадарлівасці. Сам Кулеш, праўда, быццам здолеў пераадолець гэты шквал «пераўтваральных» наступаў, жылка гаспадара ў яго засталася. Аднак поруч яго Мар'я, якая ўвесь час бачыць мужаву віну, што калісьці пасля вайны не паехала ў горад; Хведар Жыгар, якога заўсёды і ўсяму вучылі, «падганяючы» пад сябе, і тым самым спрабавалі вырваць з яго хлебаробскую жылку.

Хто яны? Ахвяры лёсу, што падаліся абставінам, паплылі па цячэнні. Ці слабахарактарныя, няздатныя да супраціўлення ім? Зноў жа, знаку роўнасці паміж Мар'яй Кулеш і Хведарам Жыгарам не паставіш... Застаецца адно: перагортваючы старонкі канкрэтнага лёсу, паспрабаваць убачыць тое заканамернае, а потым і выніковае, з чаго пачалося бездухоўленне вёскі. Менавіта на гэтых аспектах і сканцэнтроўвае галоўную думку А. Жук, паказваючы сваіх персанажаў носьбітамі часу.

Позірк гэты на вёску, хоць асноўнае дзеянне адбываецца ў апошні перыяд застою, высвечвае і многае з больш даўняга, яшчэ з гадоў калектывізацыі. Тое, што знайшло такое поўнае адлюстраванне ў нядаўняй аповесці В. Быкава «Аблава», у А. Жука прасочваецца на іншым матэрыяле, найбольш блізкім і дарагім пісьменніку. І тут, на роднай пісьменніку ўрадлівай, чарназёмнай Случчыне ў людзей таксама была падарвана вера да ўлады, ды і прыйшлі да яе тыя, хто па-сапраўднаму і гаспадарыць не мог. Што казаць пра іншыя рэгіёны...

Якраз у далёкія трыццатыя выплыў у прамым сэнсе на паверхню жыцця Антон Кіршчэня. Бо хто ён быў, каб пра яго ведаць? Сям'я жыла бедна з-за звычайнага гультайства. Да ўсяго стары Кіршчэня «любіў пагуляць і выпіць, а на работу ў яго не ставала цярпення, спрыту і часу». Малалетні Анцік таксама хутчэй за ўсё пайшоў бы бацькавай дарогай, але тут «якраз і пачаліся камуны, таварыствы, камсамол. У камуне Анціку выдзелілі боты з высокімі халявамі, добрыя, спраўныя боты і насіў ён іх многа, бо ўзяў навыраст».

# ПАЭТЫ—НЕ САЛДАТЫ...

**Віктар Шніп. Шляхам ветру. Вершы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1990.**

Пра што зараз болей за ўсё любяць пісаць паэты? Пра перабудову і пра яе ворагаў, пра Чарнобыль і занядбаную мову. Пра што зараз менш за ўсё хочацца чытаць у паэтаў? Пра занядбаную мову і Чарнобыль, пра перабудову і пра яе ворагаў.

У нашай літаратуры гэта называецца — ісці ў нагу з часам. Гучна, але — кепска. Бо паэты не салдаты, і месца іх не ў страявой шарэнзе, і самае непрымальнае, што можа (павінна) быць для паэта, — гэта раўненне. Бо творца наогул не можа жыць у нейкім адным часе, ён жыве адразу ў трох вымярэннях: мінулым, сённяшнім, будучым.

Існуе прывабная для многіх тэорыя, быццам для нармальнага развіцця таленту неабходна, каб яго акружалі графаманы, якія «рыхтуюць глебу для з'яўлення генія» (Г. Тычка). А гэтыя самыя паэты-«землякопы» заўсёды там, дзе можна добра зарабіць на папулярнай, але бяспечнай тэме, дзе можна пажывіцца без асаблівай напругі і бяссонных начэй. Яны заўсёды патрапляюць у нагу з часам і разам з тым знаходзяцца ў палоне часу, баючыся збіцца з рытму ці зрабіць хоць некалькі крокаў убок.

Адмаўляю сябе былога,
Пасылаю сябе на крыж.
Людзі выгналі з храма бога,
Я з душы выганяю мыш.

Ці не гэтымі радкамі для мяне пачалося адкрыццё складанага і драматычнага свету паэзіі (і душы) сённяшняга Віктара Шніпа? І чым яны ўразілі мяне? Нечаканым суседствам вобразаў бога і мышы? А можа, сваёй нечаканай шчырасцю? Неяк надта ўжо не ўпісвалася ягонае прызнанне ў звыклыя для нашай паэзіі рамкі. Раптам аказалася, што зусім не абавязкова шукаць горкую праўду ў іншых, таму што яна нязменна жыве ў табе самім.

Нібы чужы, іду па вуліцы,
Гляджу пад ногі прад сабою.
Назад мне страшна
азірнуцца —
Адна дарога за спіною.

«Адна дарога» — гэта і далёкая бацькоўская хата, і занядбаная мова, і высушаныя рэчкі, і разбураныя цэрквы і многае іншае. Але найперш гэта адчуванне асабістай адказнасці і віны за тое, што адбываецца з намі і вакол нас. Адсюль і пастаянная душэўная неўладкаванасць лірычнага героя, яго самота і боль.

Усвядоміўшы сябе часцінкай канкрэтнае нацыі, ён раптам жахаецца, убачыўшы і зразумеўшы, што з ёю адбываецца. З маленства любячы сваю зямлю, ён нечакана заўважае, што яна зневажаецца, знішчаецца, і ўсё гэта дзякуючы старанням адных і маўклівай згодзе другіх.

Пакінуўшы родную вёску, ён так і не знаходзіць жаданай гармоніі ў горадзе, у якім «дымна, што ў пекле, і цесна». Дзе «брудны гарачы асфальт», «лабірынты вуліц» і «дамы як акамянелыя мары».

Сустракаючыся з людзьмі, спрабуючы зразумець іхнія душы, ён заўважае падчас жахлівую неадпаведнасць у іх знешняга і ўнутранага. Ён бачыць аскепкі вялікае веры і высцылых надзей, бачыць раўнадушша і ману, бяздушша і азлобленасць... Тэмы, да глыбокага асэнсавання якіх некаторыя ідуць усё жыццё. Тэмы, якія многія ўсё жыццё стараюцца абыходзіць.

І праўды мы не любім,
Не любім і маны.
Адзін другога губім
За грошы, за чыны.
І хочам шанавання.
За што нас шанаваць?
Былінныя курганні
Не можам адстаяць.
Ды адстаім мы дачы,
Пуцёўкі, гаражы.
Заўсёды грошы ўбачым,
Не ўбачым жа — душы.
Сябе не ўвекавечым,
Загубім — пакрысе.
Ачніся, чалавеча, —
Куды цябе нясе?!

Самотныя, шчымлівыя пытанні яшчэ не раз будзе задаваць паэт. Адно не трэба забывацца, што чытач патрабуе не толькі пытанняў, але і адказаў на іх. Што чытач хоча бачыць у паэце калі не прарока, то хаця б чалавека, які абавязкова скажа яму нешта новае, невядомае дагэтуль.

Паэт спрабуе праз асабістае «я», праз будзённыя, на першы погляд, звычайныя, не паэтычныя дэталі па-свойму паказаць драматызм нашага часу, і найперш чалавека ў гэтым часе.

Замкнулі кватэры, замкнулі
і душы.
Нікому нічога супроць
не скажы.
Мой крык не пачуюць
суседчыны вушы.
Я сёння хвараю. —
Хвараеш? Ляжы!
. . . . . . . . . . . . . . .
Паштоўкі і пісьмы старыя
чытаю,
Нічога вясёлага ў словах
няма.
А я ўсё шукаю,
шукаю,
шукаю...
Смяецца і вые зіма.

Алесь Жук стварае каларытны вобраз аднаго з соцень бяздумных выканаўцаў дырэктыў. Людзі былі бяссільныя супраць кіршчэняў. Уладзе, якая гучна заяўляла аб сабе, як аб народнай, не вельмі і патрэбны быў народ, раіцца з ім яна не збіралася. Куды больш падыходзілі сляпыя выканаўцы, якія ў адпаведны перыяд насіліся са зброяй у кішэні.

Таму і атрымлівалася, што Кіршчэня і яму падобныя спекулявалі на высокіх ідэях. Простыя ж людзі ім і запярэчыць не маглі. Успомнім, што гаворыць таму ж Хведару Жыгару стары Змітрачок, калі даведаўся, што на яго дачку кінуў вока сам Кіршчэня: «Ты не бяры на мяне крыўды, хлопча. Тут нічога не зробіш. Што ж я, не бачу, што ты гаспадар, а ён пустадомак? І я так думаў, што пабярацеся вы з Марыляй... Але ж нанесла яго нячыстая. А цяпер гэтых кулакоў вышукваюць... У цябе гаспадарка, у мяне гаспадарка... А дурню не ўкажаш, падаткне, і канцоў не знойдзеш. Адным словам, забярэ ён Марылю».

Так і сталася, выйшла замуж дачка Змітрачка за Кіршчэню, ратуючы бацьку ад немінучага раскулачвання. На жаль, і такія ўчынкі не заўсёды прыносілі палёгку. Прыходзіла чарговая разнарадка, і пад раскулачванне траплялі ўжо і блізкія «людзей з кабурой». Кіршчэня, праўда, больш Змітрачковых не турбаваў, хапала ў вёсцы іншых, каго ён «перавыхоўваў».

І ці не кіршчэняў віна, што ёння на сяле мала людзей, улюбёных у зямлю, пазбаўленых прыстасавальніцкіх інтарэсаў? Зерне, пасеянае ў няўдобіцу, добрага ўраджаю не дасць. Кіршчэні якраз і рыхтавалі глебу пад такую сяўбу.

Чаму добра навучыліся кіршчэні, дык гэта кіраўніцтву! І пераемнікаў рыхтавалі. Антон іншых «то культурным гаспадаром вучыў быць, то ў калгас запісваў, то аблігацыі пазыкі прымушаў браць, то яблыні ў садзе пералічваў і жыўнасць перапісваў...» А. Жук па-майстэрску ўзнаўляе асобныя эпізоды з дзейнасці гэтага «рэвалюцыянера» ад зямлі. Нешматслоўна піша, але трапляе, як кажуць, у саму сутнасць. Вось адзін прыклад.

Кіршчэня «збіраў брыгаду і перад пасяўной, і перад жнівом, і па патрэбе, і без патрэбы. Гаварыў пра важнасць моманту. І слова «таварыш» любіў.

— Таварышы, яравыя, таварышы, азімыя, таварышы, сеяць пара!

Альбо:

— Таварышы, плугі, таварышы,, бароны, таварышы, валюшпа за хлявамі...»

Невыпадкова, што сяляне «Кіршчэню пачалі перакрыўліваць». Але нутро чалавека з «бальшавіцкім запалам» па-ранейшаму для аднавяскоўцаў заставалася загадкай. Па сутнасці, ніхто і не спрабаваў зазірнуць у самае патаемнае яго душы. Маўляў, што возьмеш, пустадомак ёсць пустадомак. Страшна, праўда, што да ўлады дабраўся, але ёсць і больш лютыя начальнікі.

Пісьменнік, аднак, не спыняецца на паўдарозе, завеньчваючы Кіршчэню. Як і І. Шамякін у аповесці «Ахвяры», А. Жук закранае і ганебную дзейнасць сталінскіх органаў НКУС, якім і патрэбны былі людзі, накшталт Кіршчэні. Праўда, нашто ўжо Антон нічога святога за душой не меў, але і ён пачаў адчуваць сябе ніякавата, калі сутыкнуўся з адным з прадстаўнікоў гэтых органаў Беразоўскім.

Аднойчы, калі Беразоўскі п'яны заснуў, Кіршчэня асмеліўся, разгарнуў яго планшэтку: «Таму, што ўбачыў, нельга было нават паверыць. Спачатку ён не мог зразумець, што абазначаюць прозвішчы, акуратна напісаныя папарна, злучаныя паміж сабой стрэлачкаю. Спачатку прозвішча старшыні сельсавета, потым старшыні калгаса, дырэктара школы і далей, далей. Прозвішчы ахвяр і тых, хто павінен быў на іх данесці. Ён, Кіршчэня, павінен быў данесці на старшыню калгаса, а потым Жыгар на яго, Кіршчэню. Ён тады ўглядаўся ў спіс, стараўся запомніць прозвішчы, хто першы, хто на каго. І гэтаму страшнаму ланцугу прозвішчаў не было канца».

Аповесць прыадкрывае свайго роду «белыя плямы» ў літаратуры, узнаўляе тое, пра што не пісалася раней, пра што і цяпер пішацца мала. Аўтар, ступаючы па гэтым цаліку, праўда, часам задавальняецца і чыста інфармацыйным паведамленнем. Скажам, адносна гэтага выпадку з Беразоўскім. Зразумела, пасля такога знаёмства з планшэткай стан Кіршчэні апраўданы. Запалоханы, ведаючы, да чаго ўсё можа прывесці, ён вырашыў маўчаць. Маўчанне гэтае зацягнулася на доўгія гады. Нават пасля выхаду на пенсію Кіршчэня перакананы: «Беразоўскія памяняліся, а тыя вучнёўскія сшыткі не прапалі. Падай сігнал, і ўсё стане на свае месцы. Вернуцца назад альбо знойдуцца другія беразоўскія. Улада не любіць, калі з ёй пачынаюць занадта брацца».

Нават, засеўшы на схіле гадоў за мемуары, Кіршчэня пра «тайну» нічога не прыгадвае. Ды і не можа пра гэта пісаць, бо пры ўсім іншым хоча застацца чысценькім, ведае, даносаў ніхто не даруе.

Навошта ж, у такім разе, Кіршчэню, як паказана ў творы, уся гэтая актыўнасць, жаданне па-ранейшаму вучыць іншых? Навошта яму наводзіць паўсюдна парадак? Каб даказаць, што недарэмна пражыў жыццё і, як раней, знаходзіцца на кані? Але ж хто-хто, а Кіршчэня не можа не здагадвацца, што яго «каняка» знасіўся. Гэта яго справа верыць: «не можа быць таго, каб пільнае вока не глядзела, не прыкмячала ўсяго, што робіцца навокал. Ёсць нагляд за ўсімі, без гэтага проста нельга». Толькі навошта ў такім разе высоўвацца, звяртаць на сябе лішнюю ўвагу?

Па-мойму, усё гэта нацяжкі ў асэнсаванні вобраза, недастатковае псіхалагічнае прасвятленне паводзін Кіршчэні ў новых абставінах. Завастраючы ўвагу на іх негатыўным, што і ператварыла персанаж у тып па-свойму гратэскавы, А. Жук прымушае верыць яму «з паўслова». Такая недагаворанасць не на карысць твору, яна прыводзіць часам да інфармацыйнасці, хоць у чыста пазнавальным сэнсе і важнай.

Між тым, сяды-тады нават узнікае адчуванне, што аповесць перанасычана... праблемамі. Што ўжо нечакана, то нечакана. Сапраўды, крытыка толькі тое і робіць, што папракае пісьменнікаў за тэматычную заезджанасць, хадульныя персанажы, плаванне па знаёмым матэрыяле. У аповесці ж «Праклятая любоў» столькі матэрыялу, што магло б хапіць не на адзін твор. Вось толькі асобныя праблемы, якія трапілі ў поле зроку А. Жука. Адарванасць партыйнай работы ад жыцця, дагматычнасць лідэраў, іх няздольнасць быць «душой народа» (сакратар партарганізацыі Радзюк. Дыктат райкома партыі ў адносінах да старшынь калгасаў і дырэктараў саўгасаў, скаванасць дзеянняў апошніх (старшыня гаспадаркі Мяцельскі)... Зломлены лёс сялян, хто на працягу дзесяткаў гадоў знаходзіўся пад каўпаком улад (Жыгар)... У сваю чаргу, поруч з гэтымі праблемамі, у аповесці паўстаюць і такія, якія ўспрымаюцца як разгалінаванні ад іх. Скажам, пазбаўленне людзей веры ў нешта святое і ўзвышанае, паслабленне маральных крытэрыяў, ломка традыцыйнага вясковага ўкладу...

Падобнай праблемнай перанасычанасці, відаць, не мог не адчуваць і сам пісьменнік. Ён разумеў і тое, што ў аповесці абавязкова павінен з'явіцца вобраз, які б нейкім чынам кандэнсаваў у сабе вялікія і малыя праблемы. Вобраз гэты — ужо згаданы Ян Кулеш. Таптала яго жыццё, зламаць хацела, але на калені не паставіла. Хай позна, ва ўзросце, вельмі далёкім ад маладога, знаходзіць ён для сябе і душэўнае, і духоўнае прыстанішча. Увасабленнем яго становіцца Галя Русакевіч, дачка таго самага Русакевіча, які па даносу Кіршчэні апынуўся ў Сібіры.

Нездарма кажуць: душа душу шукае. Нямала перажыла і Галя Русакевіч. Хапіла ўсяго ды столькі, што і ворагу не пажадаеш. Муж піў, а потым нечакана пайшоў да другой. «У сэрца яе ўвайшоў холад». Урачы паралі памяняць клімат. Так і апынулася на бацькавай радзіме.

Узаемаадносіны з Янам Кулешам паступова перайшлі ў запозненае каханне. Аднак да шчасця ўсё ж па-ранейшаму вельмі далёка. Знаходзяцца злыя языкі, пляткараць, піша ў райком партыі жонка Кулеша. А на каго людзі, на таго і бог. Перажываньні не прайшлі бясследна і для Яна: аслепнуў, хоць потым урачам удалося часткова вярнуць зрок.

Аповесць заканчваецца на далёкай ад аптымізму ноце. Каторы раз Кулеш задумваецца над пражытым, шукае той выходны пункт, адкуль і пачаліся ўсе беды і нягоды. І чым болей шукае, тым больш пераконваецца — знайсці яго не так і проста, бо многае ў жыцці залежала і залежыць не толькі ад яго самога. Так ужо сталася, што нарадзіўся Ян Кулеш у час, калі вельмі шмат знаходзілася ахвотнікаў думаць за чалавека, не пытаючыся яго згоды, рыхтаваць яму «светлую будучыню». А там, дзе на першы план ставілася сусветная рэвалюцыя, сам чалавек забываўся, рабіўся ўсяго толькі звычайным выканаўцам волі ўладу маючых.

Слепата Яна Кулеша — сімвалічная. Мрояцца, набягаюць пытанні: «...чаму сталася гэтак, што замест святла пад канец жыцця — пустая шэрасць перааранага поля?.. Навошта праклаў бог і маці, і яго любіць гэтую зямлю, усё аддаць ёй, каб атрымаць толькі шэрань, якая бясконцая, ад якой не ўратавацца тым, што заплюшчыш вочы?»

Узіраецца Кулеш у далячынь, «туды, дзе пад шэранню ворыва абазначалася рэдзенькімі маладымі прысадамі дарога ад цэнтральнай сядзібы да вёскі». Сына чакае, спадзяецца, што знойдзе той вольны час, прыедзе, адведае бацьку. Але «калі змахваў слязу, якая набягала на вочы, зноў бачыў толькі шэрае, нібы тая ваўчыная аблога, што гнала яго маладога, пустое асенняе ворыва, якому няма канца-краю».

Апошнія радкі аповесці... Няпэўнасць у жыцці героя. Як і няпэўнасць у нашым сённяшнім жыцці ўвогуле... Усе мы, як і Ян Кулеш, павінны відушчымі вачыма глянуць на свет і людзей. Але пакуль што не заўсёды ўдаецца зрабіць гэта. Шлях жа да азарэння праз праклятце такі цяжкі і пакутлівы.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

---

Вядома, было б прасцей спісаць усю гэтую гарадскую тугу на вясковае паходжанне аўтара, іа непрыстасаванасць яго да цеснаты, да «бруднага гарачага асфальту», якім «сціснулі зямлю і ўжо не выпусцяць на волю». І на ягонае шчырае «Я гэты горад не люблю. Не палюблю, відаць, ніколі» можна адказаць, напрыклад, вось гэтым глобусаўскім: «Мне падабаецца: мікрараён — Жалезны дух у канструктыўным целе. Дзіцячы пляц і школьны стадыён...»

Аднак абмежавацца гэтым тлумачэннем, значыць, зрабіць вялікую памылку. Ва ўсялякім разе, мне думаецца, тут спрацаваў яшчэ і той факт, што свежым вокам звыклыя для іншых рэчы і з'явы ўспрымаюцца больш абвострана і вывучаюцца больш прыдзірліва.

І не трэба папракаць аўтара, што ён не хоча заўважаць хараство ні гарадскіх архітэктурных збудаванняў, ні скульптурных помнікаў, ні паркаў, ні яшчэ шмат чаго, ля якога іншы не прайшоў бы раўнадушна. Не трэба хапаць яго за рукаў і навязваць свае густы. Падобная дапамога не толькі небяспечная, але падчас і шкодная. Менавіта сваё светаўспрыманне перш за ўсё характарызуе любога творцу. Да таго ж мы маем справу толькі з пэўным этапам у развіцці светабачання паэта, які можна прымаць альбо не прымаць адносна свайго, але нельга адмаўляць увогуле.

Многія з гарадскіх вершаў В. Шніпа мне імпануюць сваёй вобразнасцю і нечаканасцю вырашэння тэмы, дакладнасцю радка і той адкрытасцю, з якою аўтар гаворыць пра самае патаемнае і балючае. Возьмем для прыкладу хаця б «Дрэвы», «Памяць», «Ты не пытайся: як жывеш?», «Абразок», «Прадаўшчыца піва».. .

Горш, калі, паддаўшыся пачуццю, аўтар паспешна фіксуе на паперы тое, што бачыць навокал, не надта клапоцячыся пра глыбінны змест. Тады размовы застаюцца проста размовамі, учынкі, падзеі ператвараюцца ў звычайную канстатацыю фактаў: «А рэкламай магазіны Грош апошні забяруць. Як звяры, равуць машыны, Заглядзішся — падаб'юць».

Ёсць такі распаўсюджаны ў паэзіі прыём: рабіць вершы з некалькіх радкоў (звычайна яны ставяцца ў канцы твора). Пры гэтым усе папярэднія строфы напаўняюцца другасным, неабавязковым зместам, як бы падганяюцца пад апошнюю страфу — абавязкова свежую, арыгінальную і нечаканую. І, трэба адзначыць, нярэдка (асабліва ў невялікіх па памеру вершах) сваёй другаснасцю яны яшчэ больш узмацняюць канцоўку твора, прымушаюць зноў і зноў перачытаць яго нанова. Але нярэдка здараецца і адваротнае (як, напрыклад, у вершы «Яшчэ жывуць — нікому так не жыць...»), калі заключныя радкі як бы адрываюцца ад папярэдніх і жывуць сваім жыццём, застаюцца ў памяці чытача самі па сабе, без астатніх, якія не толькі пасля цяжка прыгадаць, але і не хочацца прыгадваць.

На шчасце, падобных вершаў у зборніку не так шмат. Бо ёсць у ім самотна-шчымлівы верш «Па пыльнай дарозе» пра вяртанне героя дадому, дзе яго ўжо даўно не чакаюць, дзе жывуць зусім чужыя людзі. Бо ёсць у ім казачна-філасофская «Быль пра сініцу» і харошыя вершы на гістарычную тэму...

Скразны матыў, які праходзіць праз усю кніжку, — матыў адзіноты. Часам ён ляжыць у аснове ўсяго твора, часам ледзь заўважны. Нярэдка ён носіць адценне болю і пакуты, нярэдка лёгкага смутку.

Уважліва ўчытваючыся ў вершы, можна заўважыць, што паэт паказвае не толькі і не столькі адчуванні свайго лірычнага «я», колькі наогул чалавечую адзіноту. Бо наш час — гэта час драматычнага абнаўлення і шматлікіх супярэчнасцей, і калі зазірнуць у душу чалавека, то сярод дабра і зла там лягчэй за ўсё адшукаць самоту.

Стыне недапітая гарбата<br>
З пахамі пратухлага віна.<br>
Шорах на душы ад<br>
лістападу —<br>
Гаспадар стаіць каля акна.

Дыхае на шыбу,<br>
выцірае.<br>
Стомлена кляне бясконцы<br>
дзень.<br>
Фортку,<br>
уздыхнуўшы,<br>
адчыняе.<br>
Да суседкі маладой ідзе.

Вечарам ён вернецца дадому<br>
І гарбату стылую дап'е.<br>
«Дураны!» — скажа ён сабе<br>
самому<br>
І ад суму песню запяе.

Давайце не будзем спяшацца вінаваціць аўтара ў прапагандзе амаральных учынкаў, а паспрабуем за гэтай досыць-такі тыповай для нашага жыцця сцэнкай убачыць трагедыю чалавечай асобы. Трагедыю, пакуль што намі яшчэ як след не асэнсаваную і таму падчас выказаную вось так — праставата, аднамерна.

Памятаецца, у першым зборніку В. Шніпа, які выйшаў сем гадоў назад і меў характэрную для свайго часу назву «Гронка святла», было дужа ўпэўненае і задзірыстае чатырохрадкоўе: «Абуджаць умею гоні, Знаю, дзе зімуюць ракі... Дзённік мой —мае далоні, Мазалі — мае адзнакі». Прыгадваю яго зараз не як папрок за колішнія «грахі», а як доказ таго, што лірычны герой паэта сёння больш раскаваны і незалежны ў сваіх думках і ўчынках, што думкі яго сталі больш важкімі, больш выверанымі з жыццёвай праўдай. За гэтыя сем гадоў паэту давялося прайсці нялёгкі шлях ад юначай узнёсласці да шматлікіх расчараванняў, ад светлае веры да пакутных сумненняў.

Але ўсё ж, відаць, самы складаны, самы цяжкі шлях у паэта наперадзе. Шлях — праз памылкі — да новае веры, праз сумненні — да спасціжэння ісціны.

**Алесь БАДАК.**

---

# Погляд на партрэт?

Ці не самы спрыяльны час аддало Цэнтральнае тэлебачанне прэм'еры гэтай перадачы. Яна была паказана ў пятніцу, заняўшы традыцыйнае месца «Взгляда». Дык жа не будзе вялікай нацяжкай сказаць, што галоўная рэдакцыя народнай творчасці ЦТ выйшла ў эфір са сваім «взглядом» — поглядам на асобу аднаго з вядомых нашых землякоў, кампазітара Ігара Лучанка.

У доўгім тэлеапавяданні спалучылася шмат рознага: рэфрэнам — хатняе, і чамусьці даўняе, інтэрв'ю І. Лучанка; архіўныя фотакарткі; колішнія здымкі на радзіме, у Мар'інай Горцы, калі быў яшчэ жывы ягоны бацька — дасціпны, гаваркі Міхась Лукіч; эпізод сярод дзяцей у музеі мар'інагорскай школы, дзе ёсць «мемарыяльны куток» Лучанка; сямейная ідылія; Лучанок — старшыня журы Усесаюзнага фестывалю польскай песні; Лучанок з вайсковым ансамблем — кансультуе выкананне сваёй песні і да т. п. А наконт саміх песень — дык лягчэй назваць тое, што не прагучала, чым пералічыць уключанае ў перадачу. Тое ж, натуральна, датычыць і выканаўцаў.

Аўтары тэлепартрэта І. Лучанка назвалі сваю работу «Памяць сэрца»,—паводле назвы адной з Лучанковых песень. Магчыма, калі б за аналагічную працу (нават на тым самым відэаматэрыяле) узяліся іх беларускія калегі, была б іншаю не толькі назва, але і творчы вынік, а значыць—і агульнае глядацкае ўражанне ад самога «партрэта буйным планам». Не будзем спрачацца пра густ і прафесійную добрасумленнасць маскоўскіх тэлемастакоў — стваральнікаў гэтага параднага партрэта: а раптам «Памяць сэрца» — іх шчыры падарунак да юбілею народнага артыста СССР дэпутата Вярхоўнага Савета СССР Ігара Міхайлавіча Лучанка (які, праўда, спраўляўся... год таму)? На падарункі ж добрыя людзі адказваюць удзячнасцю...

**С. ВЕТКА.**

**Мы ідзём шляхам спроб і памылак, пераймаючы з розных савецкіх і замежных сістэм механізмы гаспадарання і кіравання, якія не заўсёды могуць упісацца ў наш сацыякультурны кантэкст. Пошукі новых ідэй і рашэнняў павінны, на маю думку, абапірацца на навуку. Вось прыклад з апошніх доследаў: высвятленне грамадскае думкі пра дзейнасць СТД Беларусі і ацэнка рэспубліканскай тэатральнай сітуацыі. На сацыялагічныя апытанні адказаў кожны пяты член СТД.**

# ТЭАТР: камерцыя і культура

БОЛЬШАСЦЬ апытаных адзначаюць павелічэнне ролі СТД у тэатральным жыцці грамадства — 69%, горада — 32%, у жыцці саміх творчых работнікаў — 58% рэспандэнтаў. Пазітыўную ацэнку дзейнасці саюза звязваюць перш за ўсё з работай у галіне паляпшэння матэрыяльных і сацыяльных умоў жыцця работнікаў тэатра, асабліва гэта тычыцца пенсійнага забеспячэння. Многія рэспандэнты падкрэсліваюць узрослы аўтарытэт СТД БССР у краіне ў цэлым, асабліва значнасць міжнародных і рэспубліканскіх акцый — арганізацыю фестываляў, аглядаў, мерапрыемстваў (53% апытаных). У той самы час трэць анкетаваных лічаць, што СТД не аказвае істотнага ўплыву на тэатральны працэс. Гэта тычыцца механізма рэалізацыі прапаноў і канкрэтных мерапрыемстваў, выказаных на пленумах, пашыраных пасяджэннях прэзідыума, семінарах.

Самыя розныя людзі сыходзяцца на тым, што ўпаў прэстыж тэатра ў грамадстве, няма новых тэатральных ідэй, інстытута крытыкі, творчых лідэраў, пагоршаў псіхалагічны клімат у калектывах і ўзровень прафесійнага майстэрства акцёраў. Кожны другі апытаны ўказвае на недабратворны псіхалагічны клімат у калектыве (у асяроддзі акцёраў), гэтую ж акалічнасць падкрэсліваюць 67% апытаных творчых работнікаў. Такое размеркаванне адказаў сведчыць пра досыць сур'ёзны патэнцыял сацыяльна-псіхалагічнай канфліктнасці ў творчых калектывах, і ў сувязі з гэтым — пра неабходнасць уважлівага і ўзважанага падыходу да вырашэння дадзенай праблемы. У першую чаргу, гэта датычыць праблемы аховы сацыяльных і прафесійных правоў творчых работнікаў (54% рэспандэнтаў лічаць, што ў гэтай сферы абставіны змяніліся ў горшы бок, 30% — засталіся ранейшымі).

На думку большасці апытаных, найбольш прыкметныя змены ў лепшы бок адбыліся ў галіне аховы ад адміністрацыйнага ўмяшальніцтва ў творчы працэс (73%), спосабах фарміравання рэпертуару (49%), магчымасці творчага пошуку (36%), паляпшэння матэрыяльных умоў жыцця работнікаў тэатра (35%). Крытыкі робяць акцэнт на камерцыялізацыі тэатра, адзначаюць невысокі інтэлектуальны і мастацкі ўзровень драматургіі, адсутнасць новых тэатральных ідэй, безабліічнасць вядучых тэатраў рэспублікі, слабую падрыхтоўку рэжысёрскіх і акцёрскіх кадраў, недастатковую прапаганду сцэнічнага мастацтва (56%).

Дадзеныя даследавання дазваляюць у нейкай меры суаднесці рэальную тэатральную сітуацыю з грамадскай думкай, настроем творчых работнікаў. Іх бачанне, агульная ацэнка сітуацыі па некаторых параметрах супадае з думкай гледачоў.

ПА ВЫНІКАХ апытання гледачоў, 70% аўдыторыі мінскіх драматычных тэатраў складаюць выпадковыя гледачы. (У параўнанні з 70-мі гадамі ўдвая скарацілася колькасць падрыхтаванай аўдыторыі). Тэатры губляюць сваіх пастаянных гледачоў. Назіраецца значны «адток» маладых гледачоў у аўдыторыі Рускага тэатра БССР (на 23% меней маладзёжнай аўдыторыі ў параўнанні з пачаткам 80-х гадоў). У Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы знізілася прадстаўніцтва ў рэальнай аўдыторыі работнікаў культуры і мастацтва, удвая скарацілася колькасць гледачоў з навуковага асяроддзя, паменела колькасць студэнтаў і ін. груп гледачоў, якія традыцыйна арыентаваны на нацыянальны тэатр і складаюць вядучую групу гледачоў. Яны папракаюць тэатр у страце традыцый. Для большасці гледачоў купалаўскі тэатр — прадстаўнік нацыянальнай школы. Хоць зараз 17% гледачоў ідуць на «любімых акцёраў», усё ж найбольш падрыхтаваная аўдыторыя адзначае зніжэнне іх прафесійнага майстэрства, шмат у чым незадаволена рэпертуарнай палітыкай тэатра. Гледачы хацелі б бачыць народныя драмы, гістарычную хроніку, камедыі, творы нацыянальных аўтараў (да прыкладу «Тутэйшых» Я. Купалы, п'есы У. Караткевіча). Рэпертуарная палітыка тэатра ў цэлым арыентавана на масавую аўдыторыю, скарачаецца доля рэпертуару, адрасаваная спанатраным аматарам сцэнічнага мастацтва.

Шмат у чым мае рацыю рэжысёр тэатра В. Раеўскі, які сцвярджае, што тэатральная сітуацыя адэкватна адлюстроўвае падзеі ў грамадстве і пакуль не будзе зруху ў краіне, цяжка чакаць асаблівых зменаў і ў тэатры. Даследаванне тэатра па-за сацыяльным кантэкстам, паводле рэжысёра, асуджана на няўдачу. Выйсце са складанага становішча В. Раеўскі бачыць у канкрэтнай дзейнасці тэатра. Гэта пазіцыя прываблівая для многіх рэжысёраў. Апаненты В. Раеўскага — народны артыст СССР Р. Янкоўскі, крытык Т. Ратабыльская, мастацтвазнаўца Г. Барышаў сцвярджаюць, што ў нашых умовах кантрактная дзейнасць у заходнім варыянце — заўчасная. Патрэбна прадуманая сістэма сацыяльнай, прафесійнай абароны работнікаў тэатра. Дзяржаўныя тэатры з'яўляюцца здабыткам рэспублікі і мусяць атрымліваць пэўную датацыю.

У сучаснай сацыякультурнай сітуацыі, адзначаюць шмат якія псіхолагі, чалавек знаходзіцца ў стане «эмацыянальнага дэфіцыту». Невыпадкова для многіх гледачоў характэрна жаданне «атрымаць эмацыянальную разрадку», «адпачыць, забыцца на штодзённыя справы», «далучыцца да незвычайнага», «забыцца», «зняць напружанне». Свет тэатра многія бачаць як «свята душы» і для іх эстэтычная рэальнасць не павінна судакранацца з рэальнай рэчаіснасцю. Сацыялагічны доследа фіксуе павелічэнне долі гэтай групы гледачоў у складзе аўдыторыі (у 70-я гады — 17% аўдыторыі, цяпер — 43% глядзельнай залы). Цікавы той факт, што частка моладзі (узроставая група 15—19 гадоў) разглядае мастацтва, у тым ліку і тэатр, як адну з форм псіхалагічнай дапамогі. Тэатр неабходны тады, калі ўзнікае пачуццё адзіноты, безвыходнасці — у крытычныя хвіліны жыцця. 12% рэспандэнтаў адказалі, што тэатр мог бы даць магчымасць духоўнай апоры, жыццёвую арыентацыю, магчымасць пошуку альтэрнатыўных рашэнняў, выйсце з тупіку. На самай справе тэатр не прадастаўляе магчымасці гэтай групе гледачоў рэалізаваць свае за-

# ЗАКОН ПРЫРОДНЫ, ЗАКОН ЧАЛАВЕЧЫ

**«ХАМ» паводле Э. Ажэшкі ў Акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа**

Заідэалагізаваны тэатр апошніх дзесяцігоддзяў прывучыў гледачоў да таго, што ад спектакля заўсёды чакаеш актуальнай канцэпцыі, гранічнай яснасці і акрэсленасці творчай пазіцыі, калі ўсе маральныя акцэнты, нібыта тычкі, навідавоку. Новы спектакль коласаўцаў «Хам», традыцыйны па рэжысуры, разбурае гэты стэрэатып глядацкага разумення і ўспрымання. Тэатр ні на што не прэтэндуе, нікога не абвінавачвае. Бескарыслівая чалавечая дабрыня персанажаў зачароўвае залу. Па сённяшнім часе паказной міласэрнасці, ўсеагульнай бязлітаснасці і ўспышак крыўдлівага самалюбства незапатрабаваныя жыццём душэўнасць і дабрыня ўспрымаюцца асабліва востра. Яны тым больш нечаканыя, бо спектакль зроблены паводле аповесці, якая нібыта штурхае да меладраматычных эфектаў і маралізавання. У спектаклі самі паняцці дабра і зла не трапляюць пад сумненне, але імі не вычэрпваецца багацце чалавечых перажыванняў.

Здаецца, учынкі гераіні гэтага спектакля Франкі пераходзяць усе межы дазволенага, вытлумачальнага чалавечым розумам («Бес у цябе ўсяліўся, Франка, бес», — гавораць ёй аднавяскоўцы): кінула мужа, уцякла невядома куды з маладым каханкам. Усімі адрынутая, вярнулася да Паўла з чужым дзіцем, не спадзеючыся на дараванне. Павел даруе ёй. Але за дабрыню і ласку Франка адплаціла яму на свой манер: спакусіла маладога мужавага пляменніка і атруціла самога мужа... Дзіўна, ды тэатр не асуджае Франку, нібыта пакідаючы ёй час для суда над сабою.

У параўнанні з аповесцю, дзе галоўным героем з'яўляецца Павел, у спектаклі дзейнічае дуэт раўнапраўных персанажаў: Франкі — С. Акружной і Паўла — У. Куляшова, які вызначае новае прачытанне аповесці рэжысёрам Б. Эрыным. Не так важна, ці зможа паладзіць прастадушны ў шчасці і няшчасці вясковы рыбак, які не бачыў свету, акрамя ракі і лодкі, з легкадумнай, прывучанай да гарадскіх апранахаў, выгод і штодзённых уражанняў «паненкаю». Тэатр захоўвае спачувальны тон аўтаркі, далікатнасць, паэтычнасць яе светаўспрымання. Але, скарыстаўшы фарбы акварэльнай палітры ў абмалёўцы вобразаў, рэжысёр прапануе ўласны псіхалагічны малюнак іх руху.

Павел даруе гэтай жанчыне ўсё: злосць, нявернасць, лайдацтва... Тое, што не стасуецца з ягонымі ўласнымі ўяўленнямі пра маральнае. Здаецца, усю ягоную простую філасофію пра тое, што чалавек, якому добра жывецца, не будзе злобіцца і злаваць, спраўджаны лёс Франкі адмаўляе. Ды, падобна, няўдачы і супярэчнасці ўласнага жыцця не могуць пахіснуць Паўлавай веры ў ісціны, што адкрыліся яму, як вышэйшая праўда. Ён паступае нібы насуперак здароваму жыццёваму сэнсу, насуперак таму, што чакае ад яго вёска: моц і глыбіня ягонага пачуцця перамагаюць. Вяскоўцы, папляткарыўшы пра бязладнае сямейнае шчасце Паўла і асудзіўшы Франку, пагаджаюцца: як чалавеку добра, дык і ўсім добра.

Павел у выкананні У. Куляшова цэльны як глыба чалавек, не схільны да самакапання, прызвычаіўся ва ўсіх сваіх няўдачах вінаваціць адно сябе. Ён пачынае і канчае свой дзень малітвай, нязграбна водзіць пальцам па святой кнізе, напаўняючы яе словы нейкім сваім, патаемным сэнсам. Прыслухоўваецца да голасу ўласнага сумлення, намагаючыся зразумець, чаму так неспакойна і цяжка на сэрцы, што рабіць, каб зняць з сябе груз крыўды і пакутлівага болю, ды каб не пайсці супраць сумлення. Мацней за грамадскую думку, за самалюбства і нават за ўласную смерць — страсць да Франкі, якая У. Куляшовым выяўляецца ў спакоі, глыбокім і доўгім маўчанні, толькі калі-нікалі — у ласкавых зваротах да жанчыны і зрэдчас — да неба, да Бога... Не было б



«Хам» паводле Э. АЖЭШКІ. С. АКРУЖНАЯ (Франка) і У. КУЛЯШОЎ (Павел).
Фота А. ДЗМІТРЫЕВА.

патрабаванні.

Можна меркаваць, што гэтая група гледачоў арыентуецца на кампенсацыйную функцыю тэатра, і для шмат каго з іх духоўны катарсіс як мэта тэатральнага ўздзеяння падмяняецца сацыяльным катарсісам. Рост колькасці дадзенай групы гледачоў у рэальнай аўдыторыі тэатра сведчыць аб складаных працэсах, што адбываюцца ў нашым грамадстве і, відаць, адлюстроўвае ў нейкай ступені духоўную раз'яднанасць людзей, парушэнне працэсаў адаптацыі і сацыялізацыі ў навакольным асяроддзі. Ці можа тэатр арыентавацца на запатрабаванні дадзенай катэгорыі гледачоў? Цяжка сказаць адназначна, але ўлічваць інтарэсы гледачоў і ведаць сваю аўдыторыю тэатр павінен. Падрыхтаваная аўдыторыя таксама звяртае ўвагу на дэфіцыт «дабра», «прыстойнасці», «годнасці», «міласэрнасці», «спачування» і ўвогуле «яркай індывідуальнасці» сярод герояў сучаснай драматургіі.

АКЦЁРЫ хутчэй улоўліваюць гэтыя настроі; па сутнасці, сам тэатр выступае як мікрамадэль грамадства. Кожны трэці апытаны акцёр гаворыць пра невысокі ўзровень сучаснай драматургіі. «Героі сучасных п'ес часцяком бедныя, прымітыўныя, нецікавыя», «адчуваеш стому ад дэманстрацыі «дна», «сметнікаў», «валтузні ў ложку» — такія выказванні сутракаюцца досыць часта.

Акцёры востра рэагуюць на раз'яднанасць у калектыве, дэстабілізацыю «эстэтычнага стану», застой у сферы творчасці. Як ні парадаксальна, акцёры скардзяцца на «дэфіцыт узаемаадносін», «эмацыянальны голад», «адсутнасць сяброўскага пачуцця», «падтрымкі і разумення», «суперажывання і спачування», «дабрыні і міласэрнасці», «увагі і чуласці». З аднаго боку, атмасфера ў творчых калектывах адлюстроўвае грамадскую атмасферу; з другога боку, няма такой тэатральнай ідэі ці такой ідэйна-мастацкай платформы, якая магла б згуртаваць трупу. Акрамя таго, акцёры востра адчуваюць сваю сацыяльную неабароненасць, і ў савецкіх умовах кантрактная дзейнасць прыдатная далёка не для ўсіх тэатраў, далёка не для кожнага акцёра.

Нестабільнасць грамадскага жыцця, пустыя прылаўкі, талонная сістэма адштурхоўваюць ад тэатра не толькі шырокія пласты насельніцтва, але і творчых работнікаў. Цяжка патрабаваць ад акцёраў высокай творчасці пры адсутнасці ўмоў для нармальнага чалавечага жыцця. І ўсё ж як быць з прэстыжам тэатра? Якія шляхі яго далейшага развіцця?

Мы часта гаворым пра новае мысленне, але яно мае на ўвазе сувязь з культурай і духоўнай арганізацыяй усіх грамадскіх працэсаў. Неабходна змяненне сістэмы прыярытэтаў — **культурная арыентацыя грамадства.** Не замкнёная культура соцыума, абмежаваная палітычнай культурай, а наадварот — соцыум можа існаваць унутры культуры.

Ва ўсім свеце развіваецца эканоміка культуры, эканоміка інфармацыі. Паўстае праблема эфектыўнага развіцця якасці жыцця шляхам селекцыі інфармацыі па культуры і мастацтву. У Англіі за мінулы год культура і мастацтва далі нацыянальнага прыбытку 17 мільярдаў долараў, — як і тамтэйшая аўтапрамысловасць. У нас жа адсутнічае стратэгічнае мысленне і, па-ранейшаму, мізэрныя ўклады ў культуру і адукацыю, а іх значэнне толькі дэкларуецца.

Тэатр — мова ідэй, вобразаў, сімвалаў, прароцтваў, міфаў. Паводле сваёй спецыфікі тэатр можа зрабіць вельмі многа — стварыць культурную ініцыятыву, асяроддзе, умовы для кансалідацыі народа, адраджэння культуры, духоўнасці. Чарнобыльская трагедыя паставіла не толькі праблему неабароненасці, негарантаванасці самога быцця, а і праблему пераемнасці і захавання традыцый, культуры, нарэшце, будучыні нацыі. Што будзе з культурай Гомельскай і Магілёўскай абласцей, Палессем, калі людзі ўжо раз'язджаюцца ў розныя бакі, а ў будучым гэта будуць закрытыя зоны? Асэнсаванне трагічнасці нашага існавання, пошукі выйсця з нашай складанай сацыяльнай сітуацыі, сувязь духоўнасці і культуры, маралі і палітыкі — ці ж гэта не матэрыял для тэатра? Тэатр можа памагчы ў асэнсаванні гэтых працэсаў, паказаць спецыфіку нацыянальнага ўспрымання: светабачання, разумення навакольнага свету і складаных сацыяльных праблем — тым самым падрыхтуе ўмовы для кансалідацыі нацыі.

НА ЖАЛЬ, разбурана прастора тэарэтычнай думкі з нагоды складаных працэсаў, што адбываюцца ў тэатры: няма ні часопісаў, дзе абмяркоўваліся б гэтыя праблемы, няма праслойкі людзей, якія б узнавілі ўсю сістэму апазіцыі і дыскусіі ў гэтай сферы, г. зн. няма сістэмы калектыўнай дзейснай думкі. Адсутнічаюць і якія б там ні было універсальныя рэцэпты вырашэння праблем. На парадак дня паўсталі пытанні дзейнасці саюза, звязаныя ў першую чаргу з павелічэннем актыўнасці саміх членаў арганізацыі, праўлення СТД. Патрабуе вырашэння і пытанне аб адпаведнасці метадаў і сродкаў рэалізацыі ініцыятыў творчых работнікаў. Узнікае пільная неабходнасць распрацоўкі праграмы прапаганды і далучэння да тэатра маладых гледачоў, стратэгіі фарміравання глядацкай аўдыторыі. Што ж датычыць развіцця новых мадэляў тэатра, распрацоўкі эфектыўнага механізма яго дзейнасці, дык, відаць, неабходна падумаць аб падрыхтоўцы тэатральных «менеджэраў», спецыялістаў у гэтай галіне. Тэатр будуецца і на камерцыі, і на культуры.

**Валянціна ІУЧАНКА,**
**кандыдат філасофскіх навук.**

# Генадзь Іванавіч

### Да 80-годдзя з дня нараджэння народнага артыста СССР Г. ЦІТОВІЧА

**Трохі больш як чатыры гады назад ён яшчэ жыў. Нават невылечная хвароба не паўплывала на ягоную натуру. Блізкія сябры, якія наведваліся да яго ў страшную бараўлянскую бальніцу, здзіўляліся духоўнай моцы, жыццястойкасці, дасціпнасці Генадзя Іванавіча — а было ж ужо не да жартоўных размоў...**

**Здаецца, што і цяпер не пакінуў нас яго сонечны дух — часцінка цэласнай, няўрымслівай і апантанай натуры. Справа не толькі ў тым, што імя Генадзя Іванавіча Цітовіча злучылася з назвай Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору БССР — калектыву, які ён заснаваў, выпеставаў і да апошняй часіны шанаваў сваёй увагай ды парадай. Справа не толькі ў тым, што дом № 9 па вуліцы Казлова, якую ён упарта называў пастарамінску Даўгабродскай, адзначаны, нарэшце, мемарыяльнай дошкай з выявай слыннага насельніка. Справа ў тым, што памяць пра Цітовіча жыве сярод многіх і многіх людзей.**

**Для кагосьці ён — «бацька народнага хору», для кагосьці —сябра самадзейных спевакоў, для кагосьці — душа мастацкага савета, для кагосьці — гаваркі, вясёлы, просты дзядзька, які вандраваў па краі ў пошуку яшчэ не занатаваных народных песень; для кагосьці — добры дзівак, які адзначаў сваё 70-годдзе, плывучы ў лодцы па маляўнічай рацэ...**

**Ёсць многа людзей рознага ўзросту, якія ведалі Цітовіча, шанавалі яго як фальклярыста, як хормайстра, як асобу. Яны памятаюць няспынную Цітовічаву скарагаворку, памятаюць ягоныя расказы — захопленыя і сакавітыя. Памятаюць таксама, што яшчэ пры жыцці Генадзя Іванавіча хадзілі пра яго ці то легенды, ці то незласлівыя анекдоты, а мо былі гэта ўсяго толькі нявыдуманыя гісторыі, у якія досыць часта трапляў ён — самабытны неспакойны чалавек.**

**Ён дбаў пра культуру не на словах — учынкамі сваімі ратаваў ад скanання родную песню. І ёсць надзея, што імя самога Генадзя Іванавіча зберагуць-уратуюць людзі, каб засталося яно не адно толькі радком музычнай хрэстаматыі ці ў энцыклапедыі. Бо, дзякаваць богу, для сённяшніх нашых чытачоў, дый многіх, многіх людзей, якія, можа, ніколі не трымалі ў руках «ЛіМ», не трэба тлумачыць, хто такі быў Генадзь Іванавіч і як цяпер не хапае ягонага голасу нашай культуры.**

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**



Генадзь Іванавіч Цітовіч. Май 1973 года.



Дзяржаўны народны хор БССР.



З Васілём ЗУЕНКАМ. 1985 год.

Фота А. КАЛЯДЫ.

**Франкі, Павел ніколі б не перажыў такога яркага і пакутлівага душэўнага жыцця. Моцны, дужы, ён бездапаможны перад маленькаю Франкай, у характары якой С. Акружная парадаксальна спалучае рысы абаяльнага, але капрызлівага і жорсткага дзіцяняці-жанчыны.**

**Не схільная доўга заседжвацца на адным месцы і прырастаць да людзей, какетлівая пакаёўка ў вёсцы ганарыцца сваім гарадскім паходжаннем. Хоць і з ганарыстай злосцю выкрыквае Франка сведчанні сваёй высакароднасці, ды яны смешныя і недарэчныя. Якое там паходжанне ў сіраціны, якая з маленства гадавалася ў чужых людзей! Яе раптоўная пагарда да хамаў, да мужыкоў —толькі праява нежадання змірыцца з уласнаю доляю, прыняць чужы лад жыцця. Яна нядаўна кляла горад, цяпер згадвае яго з асалодай і не праміне самай дробнай магчымасці вырвацца з самотнага вясковага засценка. Так людзі, вырваныя з асяроддзя свайго натуральнага жыцця, страціўшы ўсялякую надзею на іншае жыццё, не змогшы прыстасавацца да ўмоў і змірыцца з імі, азлабляюцца, вар'яцеюць, выбрыкваюць... На злосць усім і сабе.**

**Калі Павел, адзін у свеце родны Францы чалавек, прыняў яе назад, яна, удзячная, шчыра хацела зрабіць усё, каб яму падабацца. Ды ёй, бачыце, цесна ў рамках працавітай і разумнай гаспадыні, — у рамках, што сама сабе ўсталявала. Спакушэнне маладзёна Данілкі, якое скаланула ўсю вёску, С. Акружная разумее і падае хутчэй як спробу гераіні вярнуць былую вольніцу, пажыць хоць бы водгуллем старога жыцця, па якім яна нудзіцца. Гэта не праява гіпертрафіраванай пачуццёвасці, і Франка злуе на вяскоўцаў, якія перашкодзілі ёй быць сабой.**

**С. Акружная падае Франку на рэзкіх кантрастах. Суіснаванне ў адным чалавеку супярэчлівых рысаў і якасцяў, многія з якіх набываюць уласцівасці сваіх супрацьлегласцей, утварае тэатральны і жыццёвы аб'ём вобразу. Калючая, вострая ў рухах і непрадказальная ў рэакцыях, Франка С. Акружной мяняецца на працягу ўсёй дзеі, ды ў гэтай зменлівасці захоўвае дзіўнае пастаянства. Якімі б супярэчлівымі ні здаваліся паводзіны яе гераіні — гэта заўсёды паводзіны цэльнай, паслядоўнай у сваёй супярэчлівасці асобы.**

**У спектаклі коласаўцаў Павел ніколі не б'е Франку. Ягоны цяжкі кулак заўсёды нерухома застывае ў паветры. Ці ж можа ён груба дакрануцца да жанчыны, што дала яму столькі шчасця і... няшчасця? Павел мацней шкадуе Франку, як пакутуе праз яе. Рэжысёр спектакля не дае Францы падставы (важнай у аповесці) помсціць Паўлу за абражаную годнасць. Толькі важкасць і значнасць ягонай пагрозы збіць разлютавалі Франку. Словы яна перажывае як дзеянне. Але і ў сцэнах атручвання мужа Франка С. Акружной не выказвае нянавісці да Паўла.**

**У фінале спектакля Франка палохаецца самой сябе, як быццам угледзеўшы свой звыродлівы адбітак у крывым люстры. Забойства — не насланнё, не страшны сон, гэта— рэальнасць, якой Франка проста баіцца даць веры. Актрыса знаходзіць апраўданне нечаканаму ўчынку гераіні не ва ўскладнёнай псіхалагічнай матывоўцы забойства, а ў рэзкай змене жанравай формы ролі, звяртацца да эксцэнтрычных, вострых прыёмаў. Сутыкненне разнажанравых фарбаў нечакана выяўляе глыбіню і непрасталінейнасць чалавечай свядомасці, здольнасць здзіўляцца і жахацца ўласных спраў — ці ж я гэта, ці ж са мной гэта? Са складаных сцэнічных і жыццёвых сітуацый актрыса выводзіць сваю гераіню, не дазваляючы гледачу ўсумніцца ў яе душэўнай чысціні.**

**...Мо Павел У. Куляшова «забіў» Франку бескарыслівасцю дабра і ўсёдараваннем? Няўжо ён, які нічога не апраўдваў, але ўсё даравав, і цяпер — нібыта вярнуўся з таго свету: каб ратаваць сваю злачынную жонку і маліць Бога выратаваць яе,— Франка звар'яцела...**

**Тэатр прапануе і іншы варыянт адказу. У кожным чалавеку ёсць нешта, праз што ён не павінен пераступаць. Пераступіўшы, ён становіцца на шлях самазнішчэння. Вядома, між прыродай і чалавечай этыкай існуе адвечнае супярэчанне, але інстынкты чалавека прыроднага не бяскрыўдныя і, бывае, даводзяць да крывапраліцця. Прырода не падпарадкоўваецца законам, якія чалавек усталёўвае для сябе, але свой суд чалавек спраўляе па гэтых маральных законах.**

**Уладзімір МАЛЬЦАЎ.**

# Роздум пасля Грунвальда, або Вяртанне да артыкула «ЦІ БУДЗЕМ МЫ НАЦЫЯЙ?»

(Пачатак на стар. 5).

скіх культурна-асветных арганізацый. Мала таго, ведаючы прэтэнзіі палякаў на Познань і іншыя землі, акупаваныя Прусіяй, кайзераўскі ўрад быў зацікаўлены ў польскай актыўнасці на Беларусі і ў Літве. Дык вось, у той час працэнт польскага насельніцтва быў такі: у Гарадзенскім павеце — 5,6; у Сакольскім — 1,1; Беластоцкім — 34,1; Ваўкавыскім — 2,3; Слонімскім — 1,6; Пружанскім — 1,4; Бельскім — 34,9; Берасцейскім — 3,9; Кобрынскім — 2,3; Віленскім — 24; Свянцянскім — 6; Вілейскім — 2,5; Ашмянскім 1,7; у Лідскім павеце — 4,6 працэнта. З газеты «Наше утро», што выдавалася ў Горадні (№ 17 за 21 студзеня 1919 г.), можна даведацца, з якое кнігі ўзятыя гэтыя лічбы.

Адкуль жа пасля рэпрэсій 1939 — 1941 гг., пасля канфрантацыі першых пасляваенных гадоў, пасля дзвюх хваляў польскае эміграцыі на Гарадзеншчыне набралася не менш як 300 тысяч палякаў, што, паводле сцвярджэння п. Рышарда Кацынэля, намесніка старшыні Саюза палякаў на Беларусі, складае 27 працэнтаў усяго насельніцтва? Здаецца, я адказаў на гэтае пытанне. Пра нацыянальна-рэлігійную палітыку польскіх уладаў мае апаненты могуць прачытаць не толькі ва ўжо названых публікацыях. Сёлета ў Беластоку асобнай кніжкай выйшла грунтоўная праца нябожчыка а. Льва Гарошкі «Пад знакам «рускае і польскае веры». Пачытайце даследаванне гэтага святара, якога прымалі Папы Рымскія і якога чорнаю фарбаю аблівалі ў беларускім савецкім друку (асабліва — член Саюза пісьменнікаў Алесь Бажко): вы ўведаеце, як пілсудчыкі падрывалі каталіцкую веру ў Заходняй Беларусі, як ставілі ў няёмкае становішча Ватыкан, як лілі ваду на млын сталінізму.

**Е.** ВАШКЕВІЧ, Р. Кацынэль, А. Якаўлеў у лістах, польскі генеральны консул па тэлебачанні абураюцца тым, што я абразіў свой народ: напісаў, што за чачавічнае варыва многія сталі палякамі. Панове, дазвольце мне з маім народам размаўляць шчыра. Вы маглі прачытаць таксама, што пры санацыі не ўсе пайшлі на згодніцтва і згоду. Многія каталікі бараніліся як маглі, а іх за гэта кідалі ў астрогі. Не толькі простых вернікаў, але і святароў — як, напрыклад, а. Вінцэнта Гадлеўскага, перакладчыка Евангелляў і Дзеяў Апосталаў, якога потым (у час вайны) за беларускі патрыятызм арыштавала і знішчыла СД. А што беларускіх святароў пазбаўлялі парафій, працы, дык гэта было звычайнаю з'явай. Нават з Бацькаўшчыны выганялі — як, напрыклад, а. Яна Тарасевіча, доктара і прафесара (чытайце ягоную кнігу «На Бацькаўшчыну», што выйшла ў 1936 г. у Вільні). Але такіх — духоўна ўстойлівых, да канца адданых — беларусаў-католікаў была меншасць. І трэба аб гэтым шкадаваць. Зрэшты, і сярод праваслаўных былі згоднікі. Згадаем тут мітрапаліта Дыянісія і Гарадзенскага епіскапа Саву (Саветава) — праваднікоў палітыкі «польскага праваслаўя». Успомнім, што пасля вайны гэтую палітыку працягваў мітрапаліт Макарый.

Пасля вайны выгадна стала быць «рускім». Дзеля кар'еры, дзеля смачнага кавалка хлеба сотні і сотні тысяч беларусаў, «касцельных палякаў» (тэрмін а. Уладзіслава Чарняўскага) і палякаў адмовіліся, забыліся на сваю мову. Але ці заўважылі вы, як хораша зліліся польскі і рускі дух у нашай краіне? Улада гаворыць па-руску, а карыстаецца польскімі назвамі, накінутымі ў XVII ст.: Хойнікі, Навагрудак, Брэст, Гродна... Уладзе больш да спадобы польская назва нашай сталіцы, чым адвечная —Менск. Мой карэспандэнт з Ваўкавыска А. Канановіч піша пра тое, што ў гарадскіх школах на Гродзеншчыне цяпер хутчэй пачуеш польскую гаворку, чым беларускую, што такую палітыку праводзіць таварыш Сямёнаў. А ўспомніце выступленне на сесіі Вярхоўнага Савета ваўкавыскага сакратара Жэбрака, які даводзіў, што на паўднёвай яму тэрыторыі трэць насельніцтва — католікі і, значыць, палякі. Дык ці выпадае тутэйшым палякам жаліцца на сваё гаротнае становішча? Нешта я не чуў, каб таварышы Сямёнаў, Арцыменя, Жэбрак гарою ўсталі за беларускія школы... Дый Экзарх Філарэт — шчыры прыяцель польскай іерархіі. Экуменізм? Але экуменізм за кошт беларушчыны. Слушна піша Д. Абрамчыкаў: «...Беларуская Праваслаўная Царква не што іншае як рэгіянальнае аддзяленне Рускай Праваслаўнай Царквы. Гэта значыць, што РПЦ будзе працягваць русіфікацыю беларусаў, але ўжо пад шыльдай БПЦ. Цудоўны ход! Брава, РПЦ!» Протаірэй Святадухаўскага кафедральнага сабора а. Георгій Латушка (беларус), выступаючы перад студэнтамі і выкладчыкамі, кажа, што Святое Пісанне цяжка перакладаць на беларускую мову, і дадае: «Видимо, язык такой». І ўжо зусім, даводзяць праваслаўныя святары, нельга перавесці на беларускую мову літургію. А як жа спраўляюцца з гэтым архіепіскап Мікалай, праваслаўныя беларусы ў Польшчы? (Прыехаўшы ў Гарадок Беластоцкага ваяводства, я атрымаў падарунак: праваслаўны малітаўнік, выдадзены сёлета студэнтамі-беларусамі з дабраславення архіепіскапа Савы Беластоцкага-Гданьскага).

Русіфікацыя і паланізацыя. Мой карэспандэнт В. Вахільчук з Берасцейшчыны апавядае, як адзін пажылы ксёндз прыехаў на высвячэнне аднюўленага касцёла і адкрыта агітаваў не за каталіцкую, а за польскую веру, за Польшчу і польскі ўрад. Я даўно ведаю гэтага ксяндза, памятаю, што казаў пра яго Уладзімір Караткевіч (ён таксама ведаў гэтага святара), таму і не сумняваюся ў праўдзівасці інфармацыі. Перад ад'ездам у Польшчу дазнаўся, што Польская Каталіцкая Царква не толькі Катэхізм, але і малітаўнікі друкуе кірылічным шрыфтам, ды польскімі словамі.



«...Ад удзячных нашчадкаў». Беларуская дэлегацыя, якая прымала ўдзел ва ўрачыстасцях.
Фота У. ШУБЫ.

Пабыўшы трохі ў Польшчы, разумею, што ў руках польскага клеру, у паланізатараў ёсць, груба кажучы, казырныя карты. Заходнебеларускае насельніцтва жыве ўспамінамі пра сваю зямлю, сваю гаспадарку. Ідэал эканамічнай свабоды вабіць і моладзь, якая, бадай, нічога не ведае пра нацыянальны прыгнёт у міжваенны час. Цяпер у Польшчы ёсць усё — абы грошы. У нас жа ёсць грошы, але паліцы ў крамах пустыя. На сто нашых рублёў у Польшчы можна купіць, напрыклад, тры модкыя парасоны; у нас — даплаціўшы пару рублёў — два, але пабегаўшы і пашукаўшы. Праўда, харчы дарагаватыя. Але ж адно пакрывае другое. Людзей з працягнутай рукой я бачыў толькі ў касцёле св. Яна ў Варшаве. Дык і ў нас ля цэркваў і касцёлаў сустрэнеш іх. Польскія вёскі выглядаюць годна. Драўляныя дамы ўбачыш рэдка.*

Нашым палітыкам і «аграрнікам» у Вярхоўным Савеце пара зразумець: толькі свабода прадпрымальніцтва, толькі эканамічная свабода грамадзян надае ім годнасць, у тым ліку і нацыянальную.

Наогул, змагаючыся за суверэнітэт, незалежнасць Рэспублікі ў эканамічнай і палітычнай сферах, мы ані на хвілінку не павінны забываць пра духоўную самастойнасць народа. На поўны голас мы павінны адкінуць тэорыю «триединого богоносного народа», ад якое патыхае згубай для нас. На поўны голас мы павінны бараніць сваю мову ў святынях, у школах, у друку, тэатры, на радыё, тэлебачанні, эстрадзе. Пара нам мець беларускамоўны Вярхоўны Савет, урад.

**...П**АДОБНА НА ТОЕ, што праваслаўе не ўлічвае сваіх памылак. У XVI ст., калі пачалася Рэфармацыя, праваслаўная іерархія адмовілася перавесці літургію на жывую мову народа, хоць гетман Рыгор Хадкевіч (той самы, што прыняў у Заблудаве Івана Фёдарава), прапаноўваў ёй грошы на выданне адпаведных кніг. Вынік? Праваслаўе пацярпела фіяска. Найбольш разумныя іерархі перайшлі на ўсходне-каталіцкую веру і павялі за сабой народ. Унія, між іншым, была і пратэстам супраць падпарадкавання аўтакефальнай Царквы на Беларусі і Украіне маскоўскаму патрыярху, які праводзіў палітыку царызму, «трэцяга Рыма». Аднавіўшы ў XIX ст. з дапамогаю цароў свае пазіцыі, расправіўшыся ў 20-я гг. з беларускай аўтакефаліяй, прыняўшы сергіянства, Праваслаўная Царква, мусіць, думае, што і цяпер ёй удасца абаперціся на свецкую ўладу. У Расіі, мабыць, так і атрымаецца. Але не на Украіне. Не на Беларусі. БПЦ не заўважае, што каталіцкае духавенства зноў апераджае яе. Свядомыя беларусы (моладзь, інтэлігенцыя) аддаюць перавагу касцёлу. На першай беларускай Мшы, якую адпраўляў 8 ліпеня ў Чырвоным касцёле ў Мінску а. Уладзіслаў Завальнюк, я бачыў праваслаўных, бачыў тых, хто памятае, што іх продкі былі грэка-католікамі. У Баранавічах, дзе беларускае набажэнства вядзе а. Анатоль Гей, у касцёл прыходзяць, зноў жа, не адны католікі.

У той дзень, як я слухаў Святую Мшу на Грунвальдскім полі, біскуп Тадэвуш Кандрусевіч служыў па-беларуску ў касцёле на Кальварыі. Гэта была першая Мша, адпраўленая Яго Эксцэленцыяй цалкам па-беларуску. І зноў у касцёле было шмат праваслаўнае моладзі, інтэлігенцыі, якім дарагая памяць аб продках. Хоць пад Грунвальдам змагаліся і загінулі тысячы праваслаўных, БПЦ не адзначыла гадавіну перамогі. Як павінен ставіцца да такое царквы вернік-патрыёт?

Мой карэспандэнт з Магілёва (на жаль, ён неразборліва напісаў сваё прозвішча), апавядаючы пра тое, як народ у гэтым горадзе, затаіўшы дыханне, слухаў казанне Яго Эксцэленцыі па-беларуску, успамінае, што ў адным з заходніх раёнаў ён бачыў іншую карціну: тамтэйшы пробашч да беларусаў прамаўляў па-польску. Аўтар ліста пытае: «...аб якой любві да бліжняга размова, калі духоўныя айцы цураюцца мовы сваёй паствы? Што гэта, непавага, элементарная нетактоўнасць?..»

Пытанні слушныя. І ўсё ж будзем рэалістамі. Ежы Вашкевіч піша: «...ксяндзы-палякі, нават тыя, якія ведаюць беларускую мову, адпраўляюць мшу па-польску. Але жадаюць гэтага самі вернікі...» І тлумачыць: «Літургія — рэч кансерватыўная, а каталіцкасць на Беларусі здавён злучана з польскаю моваю». У тлумачэнні пан Ежы не мае рацыі. У XVI ст. айцы езуіты, прыйшоўшы ў Вільню дзеля таго, каб вярнуць народ з пратэстантызму, найперш навучыліся беларускай мове і прамаўлялі казанні па-беларуску; яны ж у 1585 годзе выпусцілі першы беларускі каталіцкі Катэхізіс. У XX ст. беларуская мова ў касцёлах уваскрасала. Я, здаецца, ужо давёў, хто выганяў яе з святыняў. Вернікі (пераважна пажылыя людзі) хочуць польскае мовы таму, што іх прывучылі да яе, а некаторыя і таму, што памятаюць, якія праследы ўчыняліся за беларускую мову ў касцёле і ў школе. Нават арцыбіскуп Эдвард фон дэр Роп, які спрыяў беларушчыне, зведаў гнеў польскіх уладаў; нават біскуп Жыгімонт Лазінскі быў запалоханы.

Цяпер, калі па-беларуску да народа Божага звяртаюцца і біскуп, і простыя святары — айцы Уладзіслаў Чарняўскі, Анатоль Гей, Ян Матусевіч, Уладзіслаў Завальнюк, некаторыя іншыя, — ёсць надзея, што колісь запалоханыя вернікі ўспомняць і пра Кастуся Стэповіча, пра Аляксандра Астрамовіча, Фабіяна Абрантовіча, Адама Станкевіча, Язэпа Германовіча, Вінцэнта Гадлеўскага, Станіслава Глякоўскага, пра іншых (іх імёны вядомыя Богу) змагароў за Беларускую Каталіцкую Царкву. А што датычыць нацыянальна свядомых беларусаў, яны заўсёды памяталі пра іх, яны заўсёды чакалі, калі святары загавораць да іх у беларускай мове. Як бачым, беларускае Мшы хочуць і праваслаўныя, нашчадкі грэка-католікаў. Таму і йдуць у касцёл. Успомніце, пане Ежы, грубую рускую прыказку: какой поп, такой и приход. Быць ці не быць Беларускай Каталіцкай Царкве — цяпер найперш залежыць ад духавенства. Я пісаў, што Беларусі патрэбна Духоўная Семінарыя. Пра гэта пішаце і Вы. Пра гэта рупіцца монсеньёр Тадэвуш. Рупіцца, наколькі ведаю, пра беларускую Семінарыю. Значыць, ёсць падставы для аптымізму.

**...А.** ЯКАЎЛЕЎ, пішучы пра мяне, слова гісторык узяў у двукоссе. Што ж, яго права. І тым не менш, я, збольшага ведаючы гісторыю Беларусі, гісторыю беларуска-польскіх адносін, буду заўсёды пільна сачыць за падзеямі. Хіба я магу змаўчаць той факт, што адзін з лідэраў палякаў у Літве, народны дэпутат СССР Ян Ціхановіч у газеце «Единство», якую выдаюць тамтэйшыя «інтэрнацыяналісты», праводзіць ідэю стварэння нейкай усходне-польскай рэспублікі на тэрыторыі сучасных Беларусі і Літвы. А як жа! База ёсць: Гарадзеншчына і Віленшчына, дзе, паводле звышаптымістычных ацэнак, жывуць сотні і сотні тысяч палякаў. Мяне, хто помніць аб Рыжскім трактаце, палохае зліццё польскага культурна-асветніцкага руху з грамадзянамі тыпу Уладзіслава Шведа, Яна Ціхановіча, тыпу нашых дзеячаў, якія варожа настаўлены да беларушчыны. Я буду заўсёды выкрываць і супрацоўніцтва духоўных асоб з дзеячамі такога кшталту. Лічу сваім абавязкам змагацца супраць русіфікацыі і апалячвання нашага народа праз Праваслаўную і Каталіцкую Цэрквы, бо я перакананы: калі Богу было заўгодна, каб на зямлі з'явіўся беларускі народ, Яму заўгодна, каб гэты народ звяртаўся да Яго і славіў Яго ў сваёй мове. Каб не паўтараліся памылкі і прыкрасці мінуўшчыны, лічу сваім абавязкам нагадваць пра іх. Нават калі гэта камусьці і не падабаецца.

* Падкрэсліваю: польскія вёскі. Пра беларускія вёскі ў Польшчы трэба весці асобную гаворку.

